# Выпускаючы 300-ы нумар «Бацькаўшчыны»

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

ня вялікая кніга выбранай паэзіі Янкі Купалы «Спадчына». Выдавецтва пляную сваю дзейнасьць разгарнуць яшчэ шырэй, па колькі будуць на гэта пазваляць нашыя сьціплыя матарыяльныя магчымасьці.

Узноў-жа ў тым самым 1952 годзе пры «Бацькаўшчыне» пачаў выходзіць багата ілюстраваны месячны часапіс для дзяцей «Каласкі», якога выйшла ўжо аж 41 нумароў. Дзякуючы стараннаму падбору матарыялу, «Каласкі» зьяўляюцца сяньня адзінай адпаведнай беларускай лектурай для нашых дзяцей, знаёмяць іх з бацькаўшчынай, якой яны ня помняць або ў якой наагул ня былі, узгадоўваюць іх у духу беларускага патрыятызму. «Каласкі» здабылі ўжо вялікую папулярнасьць і іх чытаюць із шчырай любасьцю навет і старэйшыя. Пры гэтым ня лішнім будзе адцеміць, што асобных часапісаў для дзяцей ня маюць сяньня навет і больш шматлікія за нас эміграцыі.

Адзначаючы гэтта свае дасягненьні, рэдактары і выдаўцы «Бацькаўшчыны» не закрываюць вачэй і на адмоўныя бакі сваей працы, якія бясспрэчна былі, ёсьць цяпер і, хіба-ж, будуць і ў будучыні. Хочам аднак з асаблівым націскам і з шчырасьцю падчыркнуць, што яны зьяўляюцца ня вынікам нашае злое волі або нядбаласьці, але тых незалежных ад нас абставінаў, у якіх знаходзіцца нашая рэдакцыйная, выдавецкая й аўтарская праца. Трэба ведаць, што ў складзе Рэдакцыі літаральна няма аніводнага чалавека, галоўным заняткам якога была-б праца над рэдагаваньнем газэты й пісаньнем для яе артыкулаў. На працягу ўсяго часу выхаду «Бацькаўшчыны» за ніводзін ў ёй радок ня быў зьплачаны, нармальны ў такіх выпадках, ганарар. Наадварот, усю выдавецкую, рэдакцыйную і аўтарскую працу вядзе група людзей, якія працуюць на сваё ўтрыманьне ў іншых месцах або й зусім ня маюць заработнае працы, а працу пры газэце й выданьні кніжак разглядаюць як сваё ганаровае грамадзкае заданьне. Таму некаторыя заганы ў газэце зьяўляюцца зусім зразумелыя й часта ад нас незалежныя.

Пры ўсіх гэтых адмоўных бакох і ненармальнасьцях, як рэдакцыйны пэрсанал газэты, гэтак і ейныя сталыя супрацоўнікі маюць адну рысу — добрую волю й вялікае хаценьне служыць родным друкаваным словам вялікай нацыянальнай справе — вызваленьню беларускага народу. Гэтая вялікая й несьмяротная ідэя дае нам сілы перамагаць усялякія цяжкасьці й здабываць што раз новыя дасягненьні, якія зьяўляюцца найвялікшай заплатай за нашую, нярэдка цяжкую й няўдзячную працу. Гэтай ідэі будзе «Бацькаўшчына» служыць верна й непахісна і ў сваей далейшай дзейнасьці.

**Язэп Карэнеўскі**

**НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАГА БЕЛАРУСА НА ЧУЖЫНЕ, ЯКІ-Б НЯ БЫЎ ПАДПІШЧЫКАМ, ЧЫТАЧОМ І ПАШЫРАЛЬНІКАМ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» І ЕЙНЫХ КНІЖНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ!**

# Патрыятызм і міжнародная салідарнасьць

18-га сакавіка сёлета ў газэце «Зьвязда» быў зьмешчаны перадавы артыкул «Сіла сацыялістычнага патрыятызму і інтэрнацыяналізму». Тэма цікавая, і таму варта над ёй затрымацца.

У гісторыі паасобных народаў патрыятызм заўсёды быў і ёсьць цяпер магутным рухавіком, які гуляе вялікую ролю як у жыцьці дзяржаўных нацыяў, гэтак і ў нацыянальна-вызвольным змаганьні паняволеных народаў. Любоў да бацькаўшчыны зьяўляецца непадзельнай, адзінай, і таму прыстаўляць да патрыятызму такія эпітэты, як «сацыялістычны» ці «буржуазны» — ня толькі нелягічна, але й сьмешна.

У марксыстоўскай тэорыі патрыятызм супрацьстаўляўся інтэрнацыяналізму, які меў выходзіць з салідарнасьці працоўных масаў. Гэтага вельмі прымітыўнага падыходу трымаліся доўгі час і бальшавікі. Аднак, калі ў часе апошняй вайны савецкая імпэрыя пачала трашчэць па ўсіх швох, бальшавікі пабачылі ўсю няжыцьцяздольнасьць свае інтэрнацыяналістычнае тэзы, і павярнулі аглоблі на 180 градусаў, апэлюючы да патрыятычных пачуцьцяў падсавецкіх народаў. Нямеччына прадстаўлялася ўжо не як вораг сыстэмы, а як адвечны нацыянальны вораг. Гэта быў першы выпадак эксплёатацыі патрыятызму для бальшавіцкіх мэтаў. Калі гэты тактычны манэўр перастаў быць актуальным, камуністыя вярнуліся да старое палітыкі што да нерасейскіх народаў — вынішчэньня нацыянальных асаблівасьцяў і русыфікацыі. Прыкладам, газэта «Советская Белоруссия», якую з успомненых меркаваньняў бальшавікі падчас вайны выдавалі ў беларускай мове, была зноў пераведзеная на расейскую мову; пад ціскам партыйнае цэнзуры пісьменьнікі пачалі зноў пакідаць нацыянальную тэматыку, якая цьвіла ў гады вайны.

І вось цяпер пачаўся новы курс у савецкай палітыцы — курс, які зактуалізаваў праблему інтэрнацыяналізму й патрыятызму. Довадам гэтага і ёсьць перадавы артыкул «Зьвязды» з 18-га сакавіка г. г. Ён раскрывае нам і адну з галоўных мэтаў новага палітычнага курсу.

Як заўсёды, у вартыкуле знаходзім абабітае цьверджаньне: «Сацыялізм ня толькі ня зьнішчае нацыянальных адрозьненьняў і асаблівасьцяў, а наадварот, забясьпечвае ўсебаковае разьвіцьцё й росквіт эканомікі й культуры ўсіх нацыяў!

Што так ня ёсьць у сыстэме **бальшавіцкага** сацыялізму, можна было-б прывесьці сотні прыкладаў, акрамя ўспомненых вышэй.

Якая сапраўдная мэта савецкай прапаганды ў гэтым выпадку, ясна відаць із словаў Хрушчова на 20-м зьезьдзе, прыведзеных у тым-жа артыкуле «Зьвязды»: «...Знаходзяцца асобныя таварышы, якія лічаць, што любоў да свае Радзімы нібыта супярэчыць міжнароднай салідарнасьці працоўных і сацыялістычнаму інтэрнацыяналізму. Такое тлумачэньне зьневажае нацыянальныя пачуцьці людзей, у ніякім выпадку ня спрычыняецца да ўмацаваньня супрацоўніцтва нацыяў, разьвіцьця міжнароднай салідарнасьці працоўных усіх краін».

Гаворачы мовай Хрушчова, «тут то сабака і зарыта». Увесь новы бальшавіцкі курс разьлічаны на вонкавы эфэкт. Першым чынам, яны хочуць прыбраць да рук Югаславію, якая нарабіла ім столькі клопату сваёй самастойнай лініяй, дыктаванай ёй собскімі нацыянальнымі інтарэсамі. Гэта таксама мела быць пастка для заходніх сацыялістычных партыяў.

Бальшавікі крычаць аб нейкім сваеасаблівым **сацыялістычным** патрыятызьме, які, ні ў хвост, ні ў грыву, яны хочуць прышыць да свайго скампрамітаванага інтэрнацыяналізму. А ўсё гэта таму, што запраўдны здаровы патрыятызм, які зьяўляецца ўроджаным для чалавека, ніяк ня можна дапасаваць да ўтапічнага інтэрнацыяналізму Маркса-Леніна-Сталіна-Хрушчова й супалкі.

Разгледзім цяпер, ці здаровы патрыятызм, які бальшавікі пагардліва завуць буржуазным нацыяналізмам, перашкаджае чым-небудзь міжнароднай саліларнасьці.

Як мы ўжо казалі раней, патрыятызм зьяўляецца асабліва важным рухавіком у змаганьні народаў за свабоднае самастойнае існаваньне. Кажны народ хоча ўладжваць сваё нутраное жыцьцё свабодна, згодна з сваімі нацыянальнымі інтарэсамі. У найнавейшай гісторыі хапае прыкладаў гэтага гістарычнага працэсу. Ад часу заканчэньня апошняе вайны, дзесяткі народаў здабылі палітычную незалежнасьць. Ня значыць гэта аднак, што яны адсэпараваліся ад рэшты сьвету. Усе палітычна-сьпелыя народы добра разумеюць, што яны ня здолеюць пабудаваць свайго жыцьця без дапамогі іншых, ня здолеюць бязь іх навет утрымаць адпаведнае свабоды. Вось чаму навет такая вялікая й багатая краіна, як Індыя, пасьля здабыцьця незалежнасьці пастанавіла застацца ў Брытанскай Супольнасьці народаў побач з Англіяй, якая калісьці Індыю калянізавала. Гэта зусім не абмяжоўвае ейнае палітычнае свабоды й ня перашкаджае ёй весьці самастойнай палітыкі; гэта затое прыносіць Індыі канкрэтныя выгады. Індыя — гэта адзін з шматлікіх прыкладаў.

Таксама й дзяржаўныя народы задзіночваюцца ў розныя хаўрусы, зракаючыся часткі сваіх сувэрэнных правоў. Гэтая міжнародная салідарнасьць ня выплывае зь нейкага ўтапічнага інтэрнацыяналізму, а якраз із здаровага патрыятызму, ці, гаворачы бальшавіцкім тэрмінам — з буржуазнага нацыяналізму. Гэтак, камуністычная небясьпека задзіночыла вольныя народы у вабаронны саюз НАТО ды Эўрапэйскі Абаронны Саюз; супольныя эканамічныя інтарэсы прывялі да заснаваньня Эўрапэйскага Аб'еднаньня Вугалю й Сталі; арганізуецца Аб'еднаньне для мірнага выкарыстоўваньня атамнай энэргіі. Прыкладаў хапае. Ніхто ня прымушаў вольныя краіны прылучацца да гэтых саюзаў ці аб'еднаньняў. Гэта дыктавалі ім іхныя-ж нацыянальныя інтарэсы. А як-жа рознымі зьяўляюцца гэтак званыя «саюзы» ў камунсітычным сьвеце! Там ніхто ня пытаецца думкі народаў. Але прыдзе час, калі й наша Беларусь, пасьля адваяваньня нацыянальнае свабоды, прылучыцца да дэмакратычнае сям'і народаў сьвету ў салідарным супрацоўніцтве для лепшае будучыні. Але тады не крамлёўскі цэнтр, а сам беларускі народ выбярэ сабе партнэраў і выгадныя яму формы супрацоўніцтва.

**У. С.**

# Нацыянальнае й сацыяльнае

**(Да праблемы беларускае незалежніцкае ідэялёгіі)**

За бясспрэчную праўду мы мусім уважаць адну рэч: пытаньне незалежнасьці Беларусі будзе разьвязвацца на беларускай зямлі, беларускім народам. Разьвязка гэтае праблемы, бязумоўна, будзе залежыць ад ступені распрацоўкі й распаўсюджанасьці, а таксама ад прывабнасьці беларускае незалежніцкае канцэпцыі, якая змагла-б знайсьці сабе на бацькаўшчыне вырашальную колькасьць прыхільнікаў.

Другая бясспрэчная праўда — гэта факт, што ідэя незалежнасьці Беларусі ня мае найменшых магчымасьцяў разьвівацца на бацькаўшчыне, дзе забіваецца ня толькі беларуская нацыянальная ідэялёгія, але пры дапамозе ўдасканаленага прапагандовага апарату выпустошваецца навет глеба, на якой гэтая ідэялёгія магла-б прарастаць ды ўзыходзіць.

Таму галоўным вогнішчам беларускае незалежніцкае думкі павінна стацца беларуская эміграцыя. Гэта значыць, што тут павінна ня толькі перахоўвацца ідэя беларускае дзяржаўнасьці, але галоўным чынам яна павінна распрацоўвацца, дасьпельвацца ў сваёй усебаковасьці, каб, занесеная ў вадпаведны мамэнт на бацькаўшчыну, яна была зразумелай нашаму народу й здольнай захапіць яго сваёй праграмовай выразнасьцяй.

☆

У свой народ ніколі ня трэба траціць веры. Аднак, рыхтуючыся да вырашальнага мамэнту, нельга таксама залішня й ідэялізаваць гэтага паняцьця — тэндэнцыя, якая ў нас часта перарастае належныя рамкі. У часы найбольш зацятага варожага наступу на псыхіку народу, мы ня можам пакідаць паняцьця незалежнасьці, самаўпэўнена заяўляючы: «Народ сам вырашыць!»

Запоўніць адпаведным зьместам гэтае паняцьце — справа адказная, першарадная, але-ж і ня лёгкая. Народ гэтага ня зробіць: гэта заданьне адзінак, групаў. Народ-жа ў мамэнт, калі на парадак дня гісторыя яшчэ раз паставіць пытаньне ягонай будучыні, апынецца на раздарожжы, рваны рознымі вятрамі. Перад ім трэба будзе паставіць загадзя прадуманы моцны філяр незалежніцкае канцэпцыі, за які ён зможа схапіцца ды вакол яго ўтрымацца.

Нядаўна мы адсьвяткавалі 38-я ўгодкі Сакавіковага Акту. «Незалежнасьць» з гэтае нагоды спамянулі ўва ўсіх сямі склонах. Але які канкрэтны зьмест мы ўклалі ў гэтае паняцьце? Калі-ж бы мы асобе, якая ня слухала нашых рэфэратаў, сказалі, што незалежнасьць — гэта тры ўстаўныя граматы плюс нашае жаданьне быць незалежнымі, дык ёй напэўна захацелася-б паставіць нам пытаньне: «А што далей?»

Так, а што далей?

☆

Маленькая, але павучальная экскурсія ў недалёкую гісторыю да недалёкага суседа.

Калі ў 1941 годзе так званыя «паходныя групы» Арганізацыі Ўкраінскіх Нацыяналістых прыйшлі з Галіччыны на цэнтральныя ўкраінскія землі, каб распаўсюджваць тут ідэю незалежнасьці Ўкраіны, — арганізацыя гэтая мела ўжо за сабой даволі багаты рэвалюцыйнай дзейнасьцяй у польскіх умовах 12-цігадовы стаж. Аднак галіцкія «паходныя групы» АУН, не азнаёмленыя з падсавецкім 20-гадовым мінулым вялікае часткі свайго народу ды непадрыхтаваныя да дзейнасьці ў кардынальна іншых умовах, перажылі горкую ідэялягічную паразу. Справа бо ў тым, што рэпрэзэнтаваны гэтымі групамі АУН украінскі нацыяналізм ня меў распрацаваных канцэпцыяў у сацыяльным пытаньні. Для гэтых носьбітаў украінскае незалежніцкае ідэі праблемы сацыяльнага характару былі пытаньнем другарадным. Разьвязку іх яны адкладалі на будучыню — раней незалежнасьць, а пасьля ўладжваньне жыцьця — не дацэньваючы тае праўды, што справа палітычнага й сацыяльнага ладу, гэта арганічная й непарушная цэласьць. Затое для ўсходня-ўкраінскага грамадзтва пытаньне сацыяльнае мела першараднае значэньне. Заходня-ўкраінскія нацыяналістыя ўважалі, што ўкраінскай дзяржавы няма, і яны заклікалі народ да адбудовы яе.

Бальшавіцкая-ж прапаганда ўбіла ў галовы насельніцтва Ўкраіны, што ўкраінская дзяржава, як форма, усё-ж існуе, таму заклікі змагацца толькі за адбудову дзяржавы не знайшлі належнага не ў выпадку беспрацоўя, хваробы, старасьці й г. д. (сюды-ж уваходзяць, да пэўнай ступені, і палітычныя свабоды). Пад другім разумеецца: усё, што ўкладаецца ў паняцьце апрычонай культуры — мова, рэлігія, літаратура, мастацтва й г. д.

Кажны з гэтых двух аспэктаў у тракце дзяржаўнага адраджэньня нацыі мае свой незалежніцкі каэфіцыент: нацыянальнае — больш, сацыяльнае — менш. Аб гэтым, прыкладам, сьветчыць той факт, што нацыянальнае адраджэньне ў сваім зародку — гэта дамаганьне сацыяльнай справядлівасьці. Зьвернемся да гісторыі й мы пабачым, што адыходны пункт незалежніцкіх рухаў ляжыць у мамэньце сацыяльным. Нацыянальнае-ж водгуку. Насельніцтва-ж дамагалася ад сваіх ідэялёгаў канкрэтнага **сацыяльнага** зьместу. Ад разьвязкі гэтага пытаньня залежала бадай уся будучыня дзяржаўнай канцэпцыі. АУН змушана была йсьці на задавальненьне гэтых дамаганьняў. І яна пайшла, забясьпечыўшы сабе такім чынам далейшае ўкараненьне незалежніцкай ідэялёгіі.

Прыклад павучальны, як у прасторы, так і ў часе.

☆

Бадай кажнае нацыянальнае адраджэньне, што праводзіцца ў умовах каляніяльнага паняволеньня народу, мае свае два асноўныя аспэкты: сацыяльна-эканамічны й нацыянальна-культурны (сацыяльнае й нацыянальнае). Пад першым разумеецца: справядлівае разьмеркаваньне народнага багацьця між грамадзянамі дзяржавы, гваранты матарыяльнага дабрабыту, раўнапраўе ўсіх перад уладай, адпаведнае забесьпячэньне — гэта ўжо стадыя дасьпяваньня й рэалізацыі незалежніцкіх ідэяў.

У кажным народзе, які імкнецца да пабудовы ці адбудовы свае дзяржавы, гэтыя два мамэнты йдуць поруч. Кажны бо народ, навет у найвышэйшы мамэнт зьдзейсьніваньня дзяржаўнае незалежнасьці, мае ў сабе пэўную частку свайго патэнцыялу, якая цікавіцца перш за ўсё мамэнтам сацыяльным, і якую для ідэі незалежнасьці можна здабыць толькі праз адпаведнае пастаўленьне гэтага аспэкту. Чым большая дэнацыяналізацыя народу, чым меншая ягоная сьведамасьць, тым больш трэба распрацоўваць сацыяльнае, каб такім чынам здабыць яго і для нацыянальнага.

Адным з галоўных заданьняў адраджэнска-незалежніцкае ідэялёгіі зьяўляецца якраз вымога сачыць за прапорцыяй сацыяльнага й нацыянальнага элемэнтаў у народнай сьведамасьці ды адпаведна да гэтага ставіць у сьвятло незалежніцкае ідэі той ці іншы бок праграмы дзяржаўнага будаўніцтва.

Пасьля ўсяго гэтага, мы мусім здаць сабе справу з таго, што поступ русыфікацыі на Беларусі вымагае ад беларускае незалежніцкае ідэялёгіі асабліва ўважлівае распрацоўкі сацыяльнага мамэнту, які з кажным годам здабывае на сваёй важнасьці. А мы,

Мы працуем якраз у супрацьлежным кірунку!

☆

Беларуская эміграцыя мае ня толькі палітычны характар. Ёсьць у яе й ін-

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Хрушчоў вэрбуе моладзь

Прамова Хрушчова, зьвернутая да ўсесаюзнага зьезду «маладых будаўнікоўкамсамольцаў», які праходзіў у Маскве на пачатку красавіка, гучэла больш чым трагічна. Не адчувалася ў ёй таго красамоўства і традыцыйнае напышанасьці, самахвальства «грандыёзнага» прагрэсу, і зусім адсутнічалі такія тэрміны, як «шчасьлівы савецкі чалавек», «клопаты» партыі аб моладзі і г. д., але не бракавала цынізму таксама.

Хрушчоў абмежаваўся гэтым разам да некаторага аб'ектыўнага высказваньня аб вытваранай сытуацыі ў Савецкім Саюзе. Ня выхваляючыся, ён проста просіць моладзь прыйсьці на дапамогу дзяржаве. «Успомніце, таварышы камсамольцы, — зьвяртаецца нібы вінавата Хрушчоў да моладзі, — як вышыя бацькі, а для маладых, можна сказаць, дзяды, якія тады былі камсамольцамі, змагаліся ў гады грамадзянскай вайны, самаахвярна працавалі ў гады індустрыялізацыі краіны...». Не адважваецца Хрушчоў таксама цытаваць перад моладзяй захапленьні савецкае прэсы, у якой нібы грамадзтва вітала пастановы XX зьезду камуністычнае партыі і з гэтае нагоды забавязвалася выканаць шосты пяцігадовы плян у працягу двух, двух з палавай гадоў. Ня прыбягае ён і да казённых рэзалюцыяў, у якіх камсамольцы бяруць «дабравольна» на свае плечы ня толькі перавыкананьне плянаў, але й самыя адсталыя і перадавыя дзялянкі вытворчасьці, як прыкладам жывёлагадоўлю і вырашчваньне кукурузы.

Моладзь, як ведама, тым больш камсамольская, бачыць сябе ўсё больш і больш заняволенай. Сялянскай і працоўнай моладзі дарога да вышэйшага навучаньня амаль сталася зусім закрытай. Прымусовы, а ў савецкай тэрміналёгіі «дабравольны» масавы адыход школьнае моладзі ў калгасы і на прадпрыемствы стаўся ўзаконеным парадкам. Найменшы супраціў лічыцца «мяшчанствам», «самавольным» крокам, годным наганы. Моладзь занявольваецца яшчэ ў школе ўведзенай новай праграмай тэхнічнага навучаньня, якая мае «прывучыць юнакоў да працы яшчэ на школьнай лаўцы». Хрушчовы і Булганіны толькі цешацца, што «гэтая практыка перарасла ў удзел школьнікаў у вытворчай працы ў цэхах і заводах, у калгасных брыгадах». Карысьць для дзяржавы не малая, калі ўлічыць, што праца школьнікаў не аплачваецца. Для чырвоных бюракратаў зусім не абыходзіць, што падобная эксплёатацыя юнакоў носіць самы нялюдзкі характар. Як далёка гэтая эксплёатацыя даходзіць, відаць з прыкладу БССР, дзе ў 1955 г. школы рэспублікі пасадзілі звыш 31 тысячы гэктараў кукурузы, ведама і ўбралі яе, убралі таксама 8 014 гэктараў лёну і 93 тысячы гэктараў бульбы. Непасільная праца юнака, які, жадаючы дапамагчы галоднай сям'і, выпрацоўвае пад час летніх канікулаў 100-120 працадзён, лічыцца шляхотным учынкам. Ні здароўя юнака, ні патрэбы адпачынку партыя не бярэ пад увагу. Гэта ўсё ня можа не адбіцца на пачуцьцях моладзі. Такое нагляднае незадаваленьне і тым большае расчараваньне моладзі упадкам ідала-Сталіна, у якім яна вучылася бачыць увасабленьне камунізму, як відаць, і ўстрымала Хрушчова перад нахабнай брахнёй.

Незадаваленьне моладзі сьцьвярджае і сам Хрушчоў, зазначаючы, што «за апошні час сярод некаторай часткі моладзі сталі праяўляцца няправільныя пагляды на працу ў нашым савецкім грамадзтве». «Вінаватыя ў гэтым ня толькі моладзь», але і «старэйшыя», якія высказваюцца часта, што «ня можа мая дачка, скончыўшы дзесяцігодку, кароў даіць». Каб упэўніць моладзь у школьным «мяшчанстве» і ўгаварыць ей ейнае «шчасьце», Хрушчоў прабуе прыбегнуць да казённае цытаты, што «мы жывём у вялікім савецкім гаспадарстве, дзе ўлада належыць народу», дзе «запраўдным носьбітамі гісторыі зьяўляецца народ, які сваім высілкам творыць дабрабыт». Аднак гэты фальш прадбачвае і сам Хрушчоў і таму бездапаможна ўскліквае: «Хто-ж тады будзе працаваць у калгасах або на будаўніцтве! ? .». Ён пачынае грозіць выкараненьнем «адсталых паглядаў» на працу, ня веручы аднак у выніку, бо яму «прыдзецца яшчэ ня раз гаварыць аб гэтым». Таму Хрушчоў паніжае тон і пачынае іграць на пачуцьцях: «Таварышы! — моліць ён. — Вы толькі падумайце, колькі нам трэба пабудаваць на працягу шостай пяцігодкі заводаў, электрастанцыяў, у тым ліку атамавых, колькі новых гарадоў і вёсак!».

Як ведама, Саветы зьвяртаюць усю сваю ўвагу на разбудаваньне цяжкае прамысловасьці ў раёнах Сібіру. Вось-жа гэты самалюб, іграючы коміка і пры тым не хаваючы свайго цынізму, пачынае размалёўваць перад гэтымі «ігнарантамі» пышнасьць Сібіру. «Пры царызьме, — павучае Хрушчоў, — Сібір быў месцам ссылкі, катаргі. Наш савецкі Сібір зусім не зьяўляецца такім, як аб ім склалася агульнае ўяўленьне».

Знаны сказ Хрушчова аб кукурузе! Ведама, моладзь ня можа супярэчыць Хрушчову, напамінаючы мільёны катаржнікаў, касьцямі якіх заслалі чырвоныя тыраны кажны куток гэтага краю. Але Хрушчоў далёка ад прызнаньня і працягвае сваё падарожжа па Сібіры: «Вось Анастас Іванавіч Мікаян, — захапляецца ён, — які нядаўна вярнуўся зь Кітаю і пабываў у многіх гарадох Сібіру на шляху да Масквы, расказвае, што там цяпер 10—15 градусаў цяпла...» «Вось дзе можна выявіць сябе нашай савецкай моладзі!» — цешыць моладзь Хрушчоў, даючы ей бацькоўскае настаўленьне, што «няхай гэта будуць спачатку юнакі й дзяўчаткі, якія накіруюцца туды, потым яны пазнаюць добра адзін аднаго, пажэняцца, ствараючы моцную сям'ю...».

Што-ж моладзі абяцае тав. Хрушчоў? У сваей доўгай прамове ён ні разу не заікнуўся аб палепшаньні матарыяльнага дабрабыту «ленінскіх гадунцоў», ссылаючыся толькі на «магутнасьць Радзімы», якая мусіць стацца вынікам нявольніцкае працы моладзі. Матарыяльнае забясьпячэньне будзе залежыць ад «выкананьня нормаў», ад самай «вытворчасьці» юнакоў.

Але тысячы новых катаржнікаў, падобных тым, што выехалі на распрацоўку залеглых земляў, пацягнуцца да «легендарнага» Сібіру, і не таму, што захоплены сваім «тварствам гісторыі» і прамовай тав. Хрушчова, а таму, што будуць змушаны пакінуць свае родныя гоні.

**П. В.**

# Чарговы наступ на калгаснае сялянства

У савецкіх газэтах 10 сакавіка сёлета была зьмешчана пастанова ЦК КПСС і Савету Міністраў «Аб статуце сельскагаспадарскай арцелі і далейшым разьвіцьці ініцыятывы калгасьнікаў у арганізацыі калгаснай вытворчасьці і кіраўніцтва арцелі». Назва пастановы расьцягнутая й мала зразумелая.

Як адзначана ў пастанове, калгасная сыстэма ўзыйшла на новую й вышэйшую ступень свайго разьвіцьця, а таму прыходзіцца разьвязваць новыя заданьні ў кірунку падняцьця сельскагаспадарскай вытворчасьці. Вось у сувязі з гэтымі новымі заданьнямі й стала патрэбным выдаць пастанову аб статуце сельскагаспадарскай арцелі.

Заўсёды так бывае, што калі партыйнае кіраўніцтва ці савецкі ўрад робіць націск на насельніцтва, дык яны выясьняюць, што гэтых мерапрыемстваў патрабуе само насельніцтва. Так і цяпер. «У шматлікіх лістох, якія прыходзяць у ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР ад калгасаў і калгасьнікаў, даюцца прапановы аб неабходнасьці зьменаў у прыкладным статуце сельскагаспадарскай арцелі й асабліва патрабуюцца перагледзіць пытаньні аб парадку надзяленьня і разьмерах прысядзібных участкаў, аб колькасьці жывёлы, якая знаходзіцца ў васабістым карыстаньні калгасьніка, аб парадку скарыстаньня калгасных выганаў, устанаўленьня мінімуму працадзён, выключэньня калгасьнікаў з калгасаў, разьмеркаваньня даходаў, пашырэньні правоў кіраўніцтва калгасаў і іншыя пытаньні», — адзначана ў пастанове.

Выходзіць, што самі калгасьнікі просяць ЦК партыі й савецкі ўрад, каб былі яшчэ больш пагоршаныя ўмовы іхнага прыгоннага жыцьця.

Дасюлешні статут сельскагаспадарскай арцелі быў прыняты на 2-ім усесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў і зацьверджаны СНК і ЦК ВКП(б) 17 лютага 1935 г. Статут дзяліўся на 8 разьдзелаў і складаўся з 25 артыкулаў.

Як ведама, апрача калгаснай, грамадзкай гаспадаркі, статутам дазвалялася калгаснаму двару мець невялічкі прысядзібны вучастак ад 0,25 да 0,5 гэктара. Апрача прысядзібнага вучастка, калгаснаму двару дазвалялася мець буйную рагатую жывёлу, сьвіней, авец і пчол. Колькасьць жывёлы вызначалася ў залежнасьці ад разьвіцьця жывёлагадоўлі ў паасобных раёнах. Статут не абмяжоўваў калгасьніку мець любую колькасьць трусоў і дамашняй птушкі. У Вялікай Савецкай Энцыкляпэдыі аб пытаньні асабістай гаспадаркі прыводзіцца наступная цытата із Сталіна: «Спалучэньне асабістых інтарэсаў калгасьнікаў — вось дзе ключ для ўмацаваньня калгасаў».

Паводля статуту, усе работы ў калгаснай гаспадарцы выконваюцца калгасьнікамі, але ніякай абавязкавай нормы працы спачатку ня было ўстаноўлена. Паводля статуту, выключэньня калгасьніка з арцелі разглядалася на агульным сходзе пры прысутнасьці ня менш дзьвюх трэйціх усіх працаздатных калгасьнікаў. Пастанова-ж аб выключэньні павінна была быць зацьверджаная райвыканкомам.

Фармальна статут арцелі быў прыняты ўсесаюзным зьездам калгасьнікаў. Але пазьней партыя і ўрад ня прыдзержываліся гэтай формы. Пастанова з 27 траўня 1939 году ЦК ВКП(б) і СНК зазначае: «у радзе калгасаў практыкуецца, што прысядзібны вучастак калгасьніка становіцца прыватнай собскасьцю калгаснага двара, якою распараджаецца не калгас, а калгасьнік поводля свайго пагляду».

Гэтай пастановай быў зроблены таксама вялікі націск на калгасныя двары ў мясцох былога хутарскага землякарыстаньня. На працягу году калгасныя двары з хутароў павінны былі перасяліцца ў буйныя селішчы, дзе ім будуць прызначаныя сядзібы. Хутарскія сялібы павінны былі быць узараныя і ўключаныя ў грамадзкі зямельны фонд. Мясцовыя ўлады, апрача хутароў, разбурылі й пасёлкі, якія былі зарганізаваныя ў часы новай эканамічнай палітыкі. Цяжка было сялянству дабравольна расстацца з квітнеючымі сялібамі і пераходзіць у няўтульную калгасную вёску, каб у няспрыяльных умовах арганізаваць сваю невялічкую гаспадарку. Гэтай-жа пастановай у 1939 г. быў устаноўлены працаздольным калгасьнікам абавязкавы мінімум працадзён на працягу году. Згодна гэтай пастановы, калгасьнікі Беларусі забавязаны былі выпрацаваць на працягу году ня менш 80 дзён у калгаснай гаспадарцы.

На час вайны ў 1942 г. нормы абавязковых мінімумаў былі значна павялічаныя. На Беларусі калгасьнікі павінны былі выпрацаваць 120 дзён. Навет падлеткі ад 12 да 16 гадоў былі забавязаныя выпрацоўваць ня менш 50 працадзён. Апрача гэтага, мясцовым уладам было дазволена павышаць нормы да 20%. За нявыкананьне ўстаноўленай нормы калгасьнікі прыцягваліся да судовай адказнасьці.

Якую-ж мэту ставілі перад сабой ЦК КПСС і Савет Міністраў сваей апошняй пастановай з 9 сакавіка сёлета?

У пастанове адзначаецца, што калгасная сыстэма «адкрыла шырака дарогу да заможнага жыцьця», аднак гэтая заможнасьць можа быць дасягнутая толькі высокай прадуктыўнасьцяй працы калгасьнікаў.

У пастанове пералічаюцца тыя ўмовы, якія быццам стварыла партыя і ўрад дзеля «крутога ўздыму» калгаснай гаспадаркі. Неаднаразова падчыркваецца, што МТС і калгасы ўмацаваныя спрактыкаванымі працаўнікамі, якіх партыя дзесяткамі тысячаў пасылала ў калгасы на працягу двух апошніх гадоў. Падчыркваецца таксама, што павышэньнем нарыхтовачных цэнаў створаны ўмовы дзеля матарыяльнай зацікаўленасьці калгасьнікаў у разьвіцьці грамадзкай гаспадаркі. Навет узбуйненьне калгасаў залічана да дадатніх мерапрыемстваў.

Вялізарную прапагандную частку пастановы можна схарактарызаваць гэтак: камуністычная партыя й савецкі ўрад ўсё зрабілі дзеля калгасьнікаў. Астаецца толькі самым калгасьнікам напружана працаваць ды ўнесьці ў існуючы статут арцелі папраўкі, зьмены й дапаўненьні, а потым няўхільна яго выканаць. З гэтай мэтай ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР «лічаць неабходным раіць калгасьнікам, выходзячы з галоўнага заданьня забясьпечаньня крутога ўздыму земляробства й жывёлагадоўлі, самым дапаўняць і зьмяняць паасобныя артыкулы сельскагаспадарскага статуту з улікам мясцовых канкрэтных умоваў калгасу». Пры ўсялякіх зьменах і дапаўненьнях статуту, перш за ўсё, трэба мець наўвеце: «Значнае павышэньне прадуктыўнасьці працы калгасьнікаў і павялічэньне вытворчасьці сельскагаспадарскай прадукцыі», — як адзначае пастанова.

Інакш кажучы, ад калгасьнікаў патрабуецца напружаная праца, каб як можна больш даць дзяржаве збожжа, мяса, малака, воўны, гародніны, й іншых сельскагаспадарскіх прадуктаў.

Каб канчаткова зьвязаць калгасьнікаў з грамадзкай гаспадаркай, пастанова й накіраваная супраць прысялібных вучасткаў і індывідуальнай гаспадаркі калгасьнікаў.

Яшчэ ў мінулым годзе было заўважана, што мясцовая ўлада самавольна забірала прысялібныя вучасткі калгасьнікаў. Так у Берасьцейскай вобласьці ў бальшыні калгасаў на прысялібных вучастках была пасеяная калгасная кукуруза. У іншых мясцох быццам самі калгасьнікі «дабравольна» ўступалі свае прысялібныя вучасткі пад пасевы розных культур, патрэбных калгаснай гаспадарцы.

На XVIII зьезьдзе камуністычнай партыі Мікаян цьвердзіў, што статут зьяўляецца канстытуцыяй калгаснага ладу ня толькі на сяньняшні дзень, але яшчэ на шмат гадоў да перамогі камунізму будзе зьяўляцца сьцягам калгаснага сялянства. З таго часу ніякіх асаблівых палепшаньняў у жыцьці калгаснага сялянства не адбылося, аб перамозе камунізму ня прыходзіцца гаварыць, а матарыяльныя інтарэсы калгасьнікаў ужо абрэзаныя. У пастанове адзначана, што прысялібныя вучасткі павінны быць «упрыгожаньнем быту калгасьнікаў».

Новая пастанова ЦК і савецкага ўраду ўважае, што «няма патрэбы захоўваць раней устаноўленую колькасьць жывёлы, якую можа мець калгасны двор». Калі раней, прыкладам, калгасьнікі палескіх раёнаў Беларусі мелі права паводля статуту трымаць 2—3 каровы, 2—3 сьвінаматкі і навет да 25 авечак, дык гэтага права яны цяпер пазбаўленыя. Цяпер колькасьць жывёлы для заспакаеньня патрэбаў калгаснай сям'і будзе ўстанаўліваць калгас.

Дзеля таго, каб калгасьнікі больш працавалі ў калгаснай гаспадарцы, усе пытаньні, зьвязаныя з прысялібнымі вучасткамі, нормамі жывёлы, якую мае права трымаць калгасная сям'я, ўстанаўленьне мінімуму працадзён, а таксама нормы выпрацоўкі, цяпер ускладзеныя на вырашэньне калгасу.

У пастанове калгасьнікі неаднакратна разьдзяляюцца на «добрасумленных» і «нядбайных». Тых калгасьнікаў, якія будуць залічаны да «нядбайных», лягчэй можна будзе выключыць з калгасу, зьменшыць або й пазбавіць іх прысялібных вучасткаў. Калі раней гэтыя пытаньні разглядаліся канчаткова ў райвыканкоме, дык цяпер гэтага ўжо не патрабуецца.

Дзеля пасьпяховага змаганьня зь «нядбайнымі» пастанова нацкоўвае на іх «добрасумленных», прыкладаючы стараньні выклікаць да іх варожасьць. Аб гэтым красамоўна сьветчыць наступная цытата пастановы: «На добрасумленна працуючых калгасьнікаў ускладаецца ўся адказнасьць за вынікі ў працы калектыўнай гаспадаркі, за выкананьне забавязаньняў калгасу перад дзяржавай, а нядбайныя калгасьнікі, якія ня ўдзельнічаюць працай у грамадзкай гаспадарцы арцелі, карыстаюцца ўсімі палёгкамі і пашыраюць сваю асабістую гаспадарку не на карысьць грамадзкай гаспадаркі».

Мімаволі насоўваецца параўнаньне зь першымі гадамі калектывізацыі. Тады камуністычная партыя падзяліла сялянства на кулакоў, сярэднякоў і беднякоў. Беднякоў і сярэднякоў нацкоўвалі на кулакоў.

Цікавым месцам пастановы зьяўляецца рэкамэндацыя ня склікаць агульных сходаў, а даручаць вырашэньне розных пытаньняў кіраўніцтву калгасу ці ўпаўнаважанаму. Гэтым даецца магчымасьць адсунуць калгасныя масы ад вырашэньня жыцьцёва важных пытаньняў з тым, каб лягчэй і зручней было праводзіць пастановы партыі і ўраду ў жыцьцё.

У заключнай частцы пастановы ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР папярэджвае свае ворганы на мясцох, што новая форма кіраўніцтва справамі калгасаў «не памяншае, а павялічвае адказнасьць партыйных савецкіх і сельскагаспадарскіх ворганаў за становішча справаў у калгасах і патрабуе падняць узровень палітычнай і арганізацыйнай працы на вёсцы».

Інакш кажучы, пастанова забавязвае партыйныя й савецкія ворганы няўхіль-

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)




**Кніжкі выдадзеныя Выдавецтвам «Бацькаўшчыны»**

# Нацыянальнае й сацыяльнае

(Заканчэньне з 2-ой балоны)

шыя рысы. Гэта ейная, сказаць-бы, інтэлігенцкасьць — ня столькі, праўда, сваім людзкім складам, колькі выяўлянай навонкі (публіцыстычнай і публікацыйнай) зацікаўленасьцяй. З таго, што ў нас пішацца й публікуецца, можна скласьці даволі дакладнае ўяўленьне аб нашых палітычных рэфлексах і накіраванасьці незалежніцкае ідэялёгіі.

Мы баронім перш за ўсё нацыянальнага. Найгоршае зло для нас — русыфікацыя. Але найгоршае зло для нашага селяніна й работніка — гэта калгасна-хвабрычна-прыгонны лад і паліцыйная сыстэма. Да русыфікацыі мы адчуваем, калі не агіду, дык варожасьць. Аднак памятайма, што нашыя пачуцьці, у гэтым сэньсе, значна вайстрэйшыя, чымся нашых палітычных аднадумцаў на бацькаўшчыне.

Мы канцэнтруем бадай усю ўвагу на аспэкце нацыянальна-культурным. Рацыя-ж беларускае незалежніцкае глебы настойліва вымагае ад нас увагі сацыяльна-эканамічным праблемам будучай Беларусі. Мы мусім зразумець гэта. Калі так ужо й здараецца, што нам нацыянальнае бліжэй да сэрца за сацыяльнае, дык усё-ж мы мусім падрыхтоўваць ідэялягічную контратаку па цэлай лініі, здабываючы для ідэі дзяржаўнае незалежнасьці як найрышэйшую падтрымку нашага працоўнага народу праз правільную і ўважлівую пастаноўку пытаньняў сацыяльных.

**Аркадзь Будзіч**

# Сакавіковым шляхам

**З нагоды 38-х угодкаў 25 Сакавіка**

I

38-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі прыпалі ў годзе другіх важных угодкаў беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху — 50-х угодкаў ад пачатку выхаду ў Вільні беларускае газэты «Наша Ніва». «Наша Ніва» й 25 Сакавік — дзьве гістарычныя зьявы беларускага вызвольнага працэсу, якія зьвязаныя міжсобку якнайцясьней правам лягічнай сузалежнасьці як прычына й вынік, як зачатак і завяршэньне.

«Наша Ніва» згуляла асаблівую й адзіную ролю ў навейшай гісторыі беларускага народу. Сяньня можна з пэўнасьцяй сказаць, што каб ня было «Нашай Нівы», не дайшло-б ні да Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году ў Менску, ні да Акту 25 Сакавіка ў 1918 г. і стварэньня Беларускае Народнае Рэспублікі. Ня было-б тады напэўна й таго савецка—расейскага эрзацу беларускае дзяржаўнасьці, якім ёсьць Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка — БССР.

Дык «Наша Ніва» праз сваё кароткае існаваньне — ад 1906 да 1915 году — здабыла вельмі важнае, эпохатворчае значаньне для палітычна-нацыянальнага й культурнага адраджэньня беларускага народу. Усьведамленьне важнасьці гэтага значаньня далейшымі пакаленьнямі беларускага нацыянальнага руху выявілася найлепш праз ахрышчэньне часоў «Нашае Нівы» ў гісторыі Беларусі назовам — «Нашаніўскае Пары».

З шмат якіх гледзішчаў значаньне «Нашае Нівы» было гісторыятворчым для долі Беларусі, але галоўныя зь іх будуць хіба тры:

Першае — гэта «Наша Ніва» скрысталізавала галоўныя баявыя заданьні беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня дый вызначыла ар'енгацыйныя вехі беларускага вызвольнага руху. Гэта яна ўзьняла ідэі нацыянальнай свабоды й дзяржаўнай незалежнасьці беларускага народу, ідэі, якія, праўда, нуртавалі грамадзкае жыцьцё Беларусі ўжо ад паловы XIX ст., але якія канчаткова скрысталізавала дый вытрывала вясьціла першая «Наша Ніва».

Другое — гэта «Наша Ніва» ўзгадавала першыя кадры беларускіх культурных і палітычных правадыроў, якія прыйшліся як-жа ў пару ў часе бурных 1917—1920 гадоў.

Трэйцяе — «Наша Ніва» вытрывала пашырала свае адраджэнскія ідэі праз усе дзесяць гадоў — час, які дала ёй гісторыя для распараджэньня — і праз гэта нязвычайна спрычынілася да ўзьняцьця нацыянальнай сьведамасьці сярод шырокіх масаў беларускага народу.

Весь выдатныя дасягненьні ў гэтых трох-галінах нацыянальна-грамадзкага жыцьця й чыняць «Нашу Ніву» тым важным гісторыятворчым фактарам, які ў першую чаргу прыгатаваў і абумовіў беларускі нацыянальны ўздым 1917-га і далейшых гадоў, а вынікам якога й былі й Усебеларускі Кангрэс у Менску ў сьнежні 1917 году, і абвешчаньне незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі 25 Сакавіка 1918 году, і стварэньне Рады й Ураду БНР, і Слуцкае дый іншыя народныя збройныя чыны ў абароне свае свабоды й свае БНР.

Пэўне-ж, і да «Нашай Нівы» былі шматлікія праявы, якія сыгналізавалі ўжо надыход палітычна-нацыянальнага адраджэньня беларускага народу й навет часткова яго прыгатавалі. Дый гэтыя праявы былі характару больш спарадычнага. «Наша Ніва» першая пачала пляновую, сыстэматычную, вытрывалую арганізаваную дзейнасьць, якую, зразумела, чакалі свае ўдачы й апаразы, але для якое ўжо не магло быць ні супыну, ні адступленьня назад.

Гісторыя, на вялікі жаль, дала мала, вельмі-ж мала часу для «Нашае Нівы» для выпаўненьня яе важнага заданьня — прыгатовы беларускага народу да сустрэчы вялікіх гістарычных падзеяў. Частка пазьнейшых слабасьцяў дый няўдачаў беларускага палітычна-вызвольнага руху бязумоўна была абумоўленая ў вялікай меры тым, што ўсяго кароткіх дзесяць гадоў адвяла гісторыя для існаваньня й дзейнасьці «Нашай Нівы». Калі ў 1915 г. ваенныя падзеі першае Сусьветнае Вайны дакаціліся ўжо й да Беларусі, руйнавалі ейнае жыцьцё, яны спынілі й «Нашу Ніву». Ды спыніць вынікаў яе дзесяцігадовай працы, спыніць распачатую вялікую справу адраджэньня Беларусі, не магла ўжо ні вайна, дый ніхто іншы, хоць намагаліся дасягнуць гэта сілы Ўсходу і Захаду.

Вось усьведамляючы сабе гэтае важнае значаньне «Нашае Нівы» для гісторыі беларускага народу, Беларусы вольнага сьвету й адзначаюць сёлета яе 50-я ўгодкі. Вось дзеля гэтага-ж ворагі волі беларускага народу намагаюцца маўчаньнем або, яшчэ горш, ачэрніваньнем часапісу, зацьміць, заглушыць памяць пра «Нашу Ніву» ў беларускім народзе, што сяньня асабліва сыстэматычна праводзіць на самой-жа беларускай зямлі чырвоная Масква. Характэрна вельмі, што рэвалюцыйна-вызваленчага духу «Нашае Нівы» баіцца Масква яшчэ й цяпер, 40 гадоў пасьля яе спыненьня.

Пэўне-ж, «Наша Ніва» не паўстала сама. Часапіс і ягоны назоў быў нехалі, і асабліва стаў пазьней пасьля яго спыненьня, больш сымбалем той ахвярнай нацыянальнай працы, якую вялі шматлікія працаўнікі на сваёй нацыянальнай ніве, працаўнікі ўсім сэрцам і душаю адданыя свайму народу, й сваёй ідэі, якім пры нагодзе гэтых поўстагодніх угодкаў і належыцца ў першую чаргу ўспамін і адпаведная пашана ад нашага пакаленьня.

Галоўнымі ініцыятарамі, закладчыкамі й рэдактарамі «Нашае Нівы» былі, як ведама, браты Луцкевічы — археалёг і палітык Іван і літаратурны крытык і журналіст Антон. Супрацоўнікамі, а часта й сурэдактарамі былі далей Аляксандра Ўласаў, Алёйза Пашкевічанка-Кайрыс-Цётка, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Сяргей Палуян, Зьмітрук Бядуля, Цішка Гартны, Алесь Гарун, Вацлаў Ластоўскі, Вацлаў Іваноўскі, Ядвіган Ш., Канстанцыя Буйла, Альбэрт Паўловіч, Францішак Аляхновіч — і дзесяткі іншых, якіх каля сябе згуртавала й якіх ідэялягічна ўзгадоўвала «Наша Ніва». Усе яны аддалі свой талент «Нашай Ніве», а свае сілы справе нацыянальна-палітычнага адраджэньня свайго народу, а некаторыя зь іх склалі для гэтага пазьней і сваё жыцьцё.

Калі ў 1920 годзе пад ціскам пераважаючае не ў дзесяткі, а ў сотні разоў сілы кволае яшчэ дзіцянё «Нашае Нівы» — Беларуская Народная Рэспубліка — і не змагла ўтрымацца, заламалася, дык і з гэтым фактам вынікі працы «Нашае Нівы» ня перасталі праяўляцца. Хоць Акт 25 Сакавіка й ня ўтрымаўся доўга як рэальнасьць, дык ён застаўся затое назаўсёды яскравым сымбалем, выдатнаю ідэялягічнаю зброяй у далейшым змаганьні беларускага народу за сваю нацыянальную свабоду й сваю народную дзяржаву. Цяпер кажны год 25 Сакавіка адзначаюць у сваім сэрцы й адмысловымі абыходамі Беларусы ўсюды, дзе-б яны ня былі, і дзе адзначаць гэтае нацыянальнае сьвята ёсьць магчымасьць.

2

Вынікі працы «Нашай Нівы» й нашаніўцаў выявіліся пазьней навет і ў Беларусі пад расейска-бальшавіцкаю акупацыяй. Гэтак Масква найперш была змушаная ходам падзеяў апавесьціць 1 студзеня 1919 г. у Смаленску сваю «савецкую» беларускую дзяржаву — БССР — як супрацьвагу для БНР — Беларускае Народнае Рэспублікі. Гэтым самым гісторыя змусіла Маскву прызнаць хоць фармальна права беларускага народу на дзяржаўныя формы свайго палітычна-грамадзкага жыцьця. Дык тактыка Масквы да беларускага народу ў выніку ланцуга палітычнае эвалюцыі, выходным мамэнтам якога была паява ў 1906 годзе ў Вільні першага нумару «Нашае Нівы», была зьмененая на цэлых 180 градусаў. Ад поўнага адмаўляньня якіх-небудзь палітычна-нацыянальных і навет культурна-грамадзкіх правоў царскага й першых гадоў бальшавіцкага рэжыму, аж да прызнаньня беларускае нацыянальнае сілы за наяўны гістарычны фактар, зь якім трэба лічыцца, якога нельга нэгаваць ані абмінуць.

Далейшых дзесяць год часу былі выпаўненыя спробамі чырвонае Масквы паступова пераняць у свае рукі эвалюцыю беларускага палітычна-вызвольнага руху, каб паволі яго апанаваць і кантраляваць дый паступова сканалізаваць у сваё «общерусское», ці як цяпер гаварылася «общесовесткое» рэчышча. Дый спробы перахапіць правадырства над нацыянальным разьвіцьцём беларускага народу Маскве не ўдаліся. Раскалыханая

# Юбілей «Бацькаўшчыны» ў васьвятленьні нашых гумарыстых

## Сьвяткуем наш юбілей

Дарагія Чытачы!

Prosit! На здароўе!

На ўступе, з нагоды юбілею, некалькі афарызмаў і анэкдотаў. Ня ўсе яны будуць мае ўласныя, але, калі вы іх будзеце лічыць за мае — я не абражуся.

Жуль Рэнар (Jules Renard) кажа: «Маю цудоўную памяць — усё забываюся. Дзякуючы гэтаму, сьвет для мяне заўсёды новы й іншы...»

Мараль?

Простая: я ўсё забыўся, што пра мяне благое пісалася не гэтых бачынах і — пішу...

Далей: Хто такі пэсымісты? Адказ просты: чалавек, які месяц пажыў з аптымістым.

Мараль? Без маралі, але апраўданьне майго пэсымізму — ужо пяць гадоў супрацоўнічаю з калектывам гэтае газэты.

Цяпер пытаньне: Як назваць такое зьявішча, калі чалавек мае некалькі жонак? Рэч зразумелая, — палігамія. А як мае адну? — Навукова — «манатонія», а пабеларуску — нуда.

Што з гэтага можна дадумоўвацца? Эх, пакінем гэта інтэлігенцыі чытача...

Ну, а на заканчэньне — нешта з-за акіяну:

Нейкі Фрэд Овэн зь Мічыгану быў арыштаваны за тое, што: 1) заплаціў хвальшывым чэкам за пярсьцёнак для сваё чацьвертай жонкі, 2) забыўся ўзяць развод з трэйцяй, другой і першай жонкамі, 3) украў у трэйцяй жонкі самаход, каб паехаць у пашлюбнае падарожжа з чацьвертай.

Мараль? Выснавы?

Дазвольце, што замест аднаго й другога, будзе кароткае выясьненьне. Апошні анэкдот я зацытаваў дзеля таго, каб неяк навязаць да мае думкі аб выбарах у беларускія ворганы — як палітычныя, так і грамадзкія — у Амэрыцы. Вось я раіў-бы склікаць зборку быццам-бы дзеля крытыкі г. зв. «палітбюро» (тамашняга). Не паведамляць, што будуць выбары ў управу, а дзеяць «нахрапам»: зборку рабіць на сотым паверсе (што ў Амэрыцы ня так ужо й цяжка), каб кандыдаты ня выскачылі праз вакно. Рэч зразумелая, як старшыня забразгае ў бутэльку з вадой — заперці на ключ дзьверы.

Ну, і гэта ўводнае слова. Думаю, хопіць, каб не адзін чытач кінуў мне на галаву штось цяжкае, калі-б я апынуўся ў сфэры дасягненьня.

А цяпер прыступім да рэчы, г. зн. да юбілею, калі юбілей можна назваць рэчай.

Ізноў не абыдзецца бяз дыгрэсіі, як заўсёды ў мяне...

Перадусім хачу папытацца дарагога й вельмі шанаванага Склюта (прабач, Антось!), як правільна назваць асобу жаночай канструкцыі, якая сьвяткуе свой юбілей? У нас тут падзяліліся думкі: «юбілярка», «юбілятка», «юбілейка», «юбілейніца», а ёсьць і такія, што яшчэ нейкія гэрэзіі выдумоўваюць.

Шкада, Дарагі Склют, што за кароткі час і мушу затрымацца на тутэйшай, ня вельмі пэўнай сугэстыі: «Юбілярка»!

Да Склюта я зьвяртаюся таму, што ён быў адным зь першых стваральнікаў сяньняшняй Юбіляркі. Можна сказаць —



адным з бацькоў. Не глядзеце, Дарагія Чытачы, на ягоны заморскі гальштук. Сваім творам ён застаўся верны. Толькі часам залатое сэрца зашыфруе ў дужкі, зноскі, працяжнікі й іншыя граматычныя знакі (гром-бы іх сьпёк!).

Таму з нагоды юбілею, зараз-жа за Юбіляркай п'ю за Склюта і ўсе ягоныя іншыя літаратурныя мянушкі.

Цяпер прашу прабачэньня, што я адступіў ад трубадурскіх формаў і не ададаў пяршынства дамам. Гэта я з прызвычаеньня старога анархістага.



Але цяпер:

Ave! Чытач, выпі здароў
За наша слаўнае пяро,

якім можам ганарыцца ў нашай літаратуры і можна ім упрыгожыць чароўны жаночы капялюшык...

Яшчэ-б аднаго свайго Алі-Бабу хацеў-бы прывітаць старым клічам: „Wodzu, prowadź"!.. Ня будзем дзівіцца, Чытачы, — з двух акупацыяў у нас засталіся розныя заклікі, якія нам часамі выліваюцца з жоўцяй.

Эх, Алі-Баба, як час ляціць! Адзін з нашых заўсёды абураецца: «Што за сьвінства, я старэю, а дзеўкі ўсьцяж маладыя ходзяць па вуліцы!» Нічога, Алі-Баба, і іх Хронос грызе аж парахно сыплецца. Анадай я заглянуў у наш знаёмы «Млын». „Taxi girls" быццам-бы тыя самыя і вылякіраваныя падаўнейшаму, аднак за гэты час зьезьдзіліся: калі якая едзе — рысоры скрыпяць...

Але давайце пяройдзем да юбілею.

І вось, хоць адны Канадыйцаў выцягваюць зь бяды, а іншыя ў саладусе тоўшчам абрастаюць — юбілей сур'ёзны: ТРОХСОТЫ... Амаль усе капіталы вывандравалі за акіян і даводзіцца жыць на «лювэнскіх працэнтах». Аднак, ня гледзячы на розныя пэрыяды, на унтэрштыцунгу да трохсоткі дапхаліся. Выглядае, што папхаюцца й далей. Праўда, пытаецца мяне ўсё-ж гэты Склют:

«...Лозьзя, лычча і сычугі,
А колькі-ж вас такіх на хунт?..

Шмат, Дарагі, трэба, нажаль, шмат, сунку: Фідыяс навет лепшага ня выкаваў-бы з чыстага золата.

Ну, а рэшта — усё пігмэі, таксама ў камплеце. Што аб іх можна сказаць? Працэнты. Але ад добрага капіталу, дык і самі з часам пэратвараюцца ў капітал. Хлапцы пераважна свабодныя, дык, калі-б дзесь знайшлося аплеценае ружамі ярмо — with pleasure! Гатовы ўдзесяцярыць капітал... Праўда, адзін зь іх мае даўгі, і інтэрас ня вельмі-ж добра стаіць, таму думае багата ажаніцца. Але рэшта — у парадку, гатова на змаганьне. Усё-ж можа мне ня выпадае рабіць рэклямы, так як шаноўная Юбілярка — не матрыманьяльнае бюро.

Дык што-ж, мне застаецца яшчэ, калі я ўжо Шаноўным Чытачом прадставіў калектыўных дапішчыкаў? Не магу-ж я бязь іхнага ведама запэўніваць, што яны выцягнуць, аднак думаю, што, калі нашы вялікія індывідуальнасьці глянуць на Юбілярку ласкавым вокам, а чытачы будуць плаціць падпіску — да наступнага юбілею даедзецца.

Дык яшчэ раз:
За здароўе й удачы Юбіляркі!
Хай жывець!..

**Мірза Кіш-Міш**

**P.S.**

Праўдападобна, паўсталі сур'ёзныя «сумлевы», ці выпадае паказваць гэты калектыў з бутэлькамі. Яшчэ хтось падумае, што гэта п'яніцы... Таму запэўніваю чытачоў, што нічога падобнага. А



ў бутэльках — хоць і ад гарэлкі — толькі чарніла. Бо, калі хтось мае пяро — чарніла мусіць мець. Таму, Дарагія Чытачы, ня верце варожай прапагандзе.

## Зь дзёньніка Рэдактара

Я, грамадзяне, дажыў да адносна паважнага веку даволі сумленна, калі ня лічыць такіх грахоў маладосьці, як суседзкія яблыкі ды УННРА-аўскія скрынінгі. Але гэткіх грахоў вы мне за благое не палічыце, бо напэўна вы й самі не сьвятыя. Прызнайцеся: няўжо вы ня лазілі ў яблыкі? А ўжо тым больш — няўжо ня круцілі на скрынінгах? Калі хто памятае, дык абедзьве рэчы дыктаваліся ў нашыя часы ня толькі патрэбай, еле й, можна сказаць, належалі да добрага тону.

Раз-такі давялося мне зграшыць цяжэй: засьвярбелі мне рукі, і я, пханы нейкай няведамай сілай, — накш кажучы, пад натхненьнем — сьцібрыў чужую рэч А здарылася гэта проста. Запрасіў нек наш Рэдактар усіх сваіх бліжэйшых супрацоўнікаў да сябе. Не магу сабе цяпер дакладна прыгадаць, што гэта была за нагода: аблівалі ні то 271-ы нумар газэты, ні то 11-я ўгодкі чагосьці. Адным словам, нагода была.

Супрацоўнікі зьявіліся ў поўным складзе, бо, трэба сказаць, што грамадзкая дысцыпліна стаіць у нас на належным узроўні, і ў такіх выпадках слова Рэдактара для нас сьвятое. Ну, выпілі, закусілі. Коратка сказаўшы, як журналістым належыцца. Раптам гляджу я — ляжаць на вакне два таўставатыя сшыткі. Я туды. Пакуль я дабраўся да вакна, два сшыткі зьліліся чамусьці ў вадзін. Адгарнуў я вокладку: «Дзёньнік» напісана. Рэдактаравым характарам. Кемкаму чалавеку, выбачце за сьціпласьць, ня цяжка было здагадацца, што гэта ня просты сшытак, а аснова будучых мэмарыялаў, гістарычны матарыял. Вось тут і папхнуў мяне нячысты: рука проста сама запхнула сшытак у кішаню. Цяжка выясьніць, чым у гэтым выпадку кіравалася мая падсьведамасьць (із зразумелых прычынаў, сьведамасьці на той час ня было зашмат). Можа цікавасьцяй, ці не пападу і я ў гісторыю...

Назаўтра, пасьля заслужанага адпачынку, намацаў я ў кішані сшытак. Ужываючы мэтад рэтраспэкцыі, дабраўся я ў думках ад ложка, праз шэраг

(Працяг на 7-ай бачыне)

адылі ня жывым-жа ў саладусе тапіцца...

На шчасьце, ёсьць у нас Гэркулес, а зь ім і мора па калені. Пабачце на ры-

**Прышлі безадкладна падпіску на «Бацькаўшчыну» й заахвоць зрабіць гэта сваіх прыяцеляў і знаёмых!**

працаю «Нашае Нівы» дый падзеямі зьвязанымі з Усебеларускім Кангрэсам дый БНР народныя сілы шпарка расьлі, дужэлі й хутка перарасталі ўсе накінутыя Масквою «савецкія» й «сацыялістычныя» формы. За колькі ўжо гадоў яны пагражалі выпаўніць чужую, накінутую Масквою, дзяржаўную форму — БССР — зусім не савецкім, ані расейскім, але чысьцейшым нацыянальным сваім беларускім зьместам і калі не рэвалюцыяй, дык эвалюцыяйператварыць БССР у БНР, г. зн. у сваю нацыянальную ня толькі па форме, але й па зьмесьце дзяржаву.

Зразумела, што ўздужэлая ў міжчасе бальшавіцкая Масква ніяк не магла да гэтага допусьціць. Тактыка Масквы была ізноў зьмененая й ізноў на цэлых 180°. Цяпер сіла беларускага палітычна-вызвольнага руху была прызнаная ня толькі за наяўны існуючы факт, але ўжо й за найбольшую пагрозу для справы далейшае каляніяльнае кантролі Беларусі Масквою.

І дзеля гэтага беларускаму народу, а ў першую чаргу ўсім яго актыўна-творчым сілам, быў апавешчаны сьмяротны бой з мэтаю поўнага зьнішчэньня. Для гэтага Масква, як ведама, ужыла самыя станоўкія меры, самы безаглядны брутальны тэрор. У выніку ад пачатку 1930-х гадоў аж па сяньня былі зьнішчаныя тысячы самага вядучага інтэлектуальна-творчага актыву, дзесяткі тысяч народных мясцовых дзеячоў і цэлыя мільёны беларускага народу — беларускіх сялян, работнікаў, інтэлігенцыі.

Крывавыя й жудасныя мерапрыемствы мусіла ўжыць Масква на тое, каб прызнаныя некалі з мусу беларускаму народу дзяржаўныя формы зьвясьці й утрымаць у межах самой толькі фармальнай фікцыі, каб пакінуць іх — нацыянальнымі толькі па назове, а выпаўніць іх не беларускім, а сваім расейска-бальшавіцкім зьместам.

Дый і гэты задум правесьці аказалася ані так проста, ані так лёгка. Завяршыць-жа не ўдалося яго фактычна и да сяньня, і, можна гэта цяпер сказаць напэўна, ня ўдасца ніколі. Стыхійныя сілы шматмільённага народу мацнейшыя за сілу тэрору й зьдзеку, тымбольш, што не адзін беларускі народ сяньня ў прымусовым роспачным змаганьні за сваё існаваньне.

Паколькі змаганьне за душу й долю беларускага народу ідзе ў поўнай сіле й далей, Масква побач брутальнага тэрору ўжывае ў гэтым змаганьні ня раз і хады аблыжнае хітрасьці, дый выступае ў ролі крывадушнага апякуна «меншага брата» — беларускага народу. Гэткімі крывадушнымі ходамі была справа ўвядзеньня БССР у Задзіночаныя Нацыі пасьля апошняе сусьветнае вайны. Гэткім-жа крокам было «наданьне» асобнага «дзяржаўнага» сьцягу для БССР у 1951 годзе. Да гэткіх аблыжных палітычных крокаў належыць і праведзенае ў мінулым годзе дэкрэтам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР з 24 верасьня 1955 году зацьверджаньне «дзяржаўнага гімну БССР».

Дык толькі аж на 36-м годзе існаваньня БССР Масква асьмелілася дазволіць на гэткі вялікі аўтанамічны прывілей, як права мець свой асобны ад Масквы «дзяржаўны гімн». Гімн гэты па сваім зьмесьце, зразумела, ня ёсьць гімнам адбіваючым імкненьні беларускага народу да нацыянальнае свабоды. «Гімн» гэты, наадварот, адбівае імкненьне Масквы замацаваць яшчэ больш паняволеньне беларускага народу. Для гэтага ў гэтым «гімне» й славіцца найперш Расея — «братняя Русь» — камунсітычная партыя, Ленін. Не аб свабодзе, не аб правох і імкненьнях народу, не аб нацыянальнай волі й незалежнасьці гаворыцца ў гэтым падкінутым сілком для беларускага народу «гімне». Гаворыцца там толькі аб «вечным» «разам» з Масквою ў супольным канцэнтрацыйным лягеры — Савецкім Саюзе. Дык гэта гімн ня волі, а рабства. Гэта «гімн» накінуты беларускаму народу чужою акупацыйнаю сілаю, і таму і існаваць ён будзе на беларускай зямлі ні дня даўжэй, як гэтая-ж чужая акупацыйная сіла.

Тыповая й вельмі характэрная для расейскага бальшавізму й гісторыя паўстаньня гэтага «гімну БССР» — хвалясьпеву Маскве й партыі. За словы для гімну ўзяты верш Міхася Клімковіча, паэты нядаўна памерлага, якога савецкае-ж НКВД ламала некалі духова й фізычна з усёю своймаю сабе безаглядднасьцяй, аж у канцы тэрорам і катаваньнямі давяла яго да спробы самагубства праз падрэзаньне горла. Адлечанага, але зламанага ўжо маральна, бальшавікі пазьней выкарыстоўвалі Клімковіча як свайго паслушнага партыйнага вершапісца. Тады гэта Клімковіч і напісаў свой панэгірычны Маскве й партыі верш, які цяпер бальшавіком спатрэбіўся на «дзяржаўны гімн» БССР. Даваньне Беларусі за гімн вершу напісанага зламаным маральна тэрорам НКВД рабом з падрэзаным у мамэнт роспачы горлам — гэта пануры й яскравы ў сваім сымбалізьме выяў трагічнай долі беларускага народу ў найбольш жудасную «савецкую» пару яго гісторыі.

Вось гэткім толькі «гасьцінцам», побач далейшых няспынных вывазаў у канцлягеры й Казахстаны жыхарства Беларусі, Маскоўска-савецкі рэжым «ашчасьлівіў» беларускі народ у часе між мінулымі й сялетнімі ўгодкамі 25 Сакавіка.

**3.**

Апошнімі тыднямі, як ведама, адбываюцца некаторыя перамены ў мазгох і радох самое верхавіны камуністычных валадароў савецкае імпэрыі. Паколькі ад іхнае волі дый самаволі залежыць сяньня, нажаль, і доля беларускага народу — ня шкодзіць прыглядзіцца бліжэй і ўважней: якія-ж гэта зьмены й што яны ў запраўднасьці значаць.

Як ведама, аднэй з найбольш шумных справаў ад часу апошняга XX зьезду Камуністычнае Партыі СССР у Маскве ёсьць распачатая на тым-жа зьезьдзе чыстка ад трох гадоў няжывога «вялікага, геніяльнага, мудрага» Сталіна. Паводля паведамленьняў прэсы, ад партыйных іконаў — партрэтаў Сталіна — чысьцяць сяньня па ўсім СССР і сатэлітных краёх установы, клюбы, музэі. Ёсьцека й паведамленьні, што «народ дамагаецца», — а Хрушчоў, — відаць, гадае над тым: вывярнуць ці не Сталінавы астанкі з Крамлёўскага маўзалею?

З гэтага ўсяго ясна тое, што з крывава будаваным коштам мільёнаў нявінных ахвяраў аўтарытэтам і культам Сталіна Хрушчоў, які сам культ гэты мацаваў ня менш іншых, наважыў расправіцца не на жарты. На Захадзе ёсьць ня мала гэткіх, што ў гэтай «іконаборчай» акцыі хочаць ужо бачыць праявы нейкіх паважнейшых дый глыбейшых пераменаў савецкага ладу дый бальшавіцкага тэрору ў СССР.

Аб чым-жа ў запраўднасьці сьветчаць гэткія станаўкія меры Хрушчова ў кірунку змаганьня з пасьмертным аўтарытэтам Сталіна? І ці можна запраўды ад гэтых пераменаў, калі яны будуць навет праведзеныя кансэквэнтна да канца, чакаць нечага паважнейшага, пазытыўнага для Захаду, для народаў сатэлітных, для народаў паняволеных, і, найперш, для нашага беларускага народу,

Перш чым адказаць на гэтае пытаньне, трэба зьвярнуць увагу на той сьцьверджаны гістарычны факт, што ніякіх каранных пераменаў Масква ад часу сваіх зачаткаў аж да разросту ў Расейскую Імпэрыю й сяньняшніх дзён, ня знае. Для гістарычнага працэсу Расеі характэрны заўсёды дэспатычны, антынародны лад з больш ці менш грознымі й крывавымі Іванамі дый Сталінамі. Свабоды народнай, ані улады народнай расейская гісторыя ня ведае.

Расейскі пісьменьнік Тургенеў у сваей повесьці «Дым» істоту расейскіх палітычных пераменаў уняў у вельмі яскравую й простую формулу: «Был Яков, а теперь Сидор; в ухо Якову, в ноги Сидору!» Вось паводля тае-ж Тургеневай формулы адбываюцца «перамены» ў Маскве й цяпер: Быў Сталін, а цяпер Хрушчоў; у вуха Сталіну, у ногі Хрушчову!

Што перамены толькі гэткага, а ня іншага глыбейшага характару адбываюцца й цяпер, паказвае гэта той факт, што, сьціадаючы Сталінавы іконы, Хрушчоў да гэтай пары не распусьціў аніводнага канцэнтрацыйнага лягеру, ані не закрыў аніводнае вязьніцы ў СССР; што ён ня звольніў і малой часткі тых мільёнаў палітычных катаржан, якія загнаныя ў лягеры на зьнішчэньне і Сталінам і пасьле Сталіна.

А ці не характэрна й тое, што ўсяго колькі тыдняў таму на XX зьезьдзе партыі гаварылася шмат і пра «калектыўнае кіраўніцтва», і навет пра «дэмакрацыю», але — толькі «нутрапартыйную дэмакрацыю»! Гэта значыць, дэмакрацыю толькі для сяброў камуністычнай партыі. Нічагуткі не казалася на зьезьдзе пра дэмакрацыю для звычайных работнікаў, сялян, інтэлігенцыі, — для ўсяго народу. Пра правы для народу, правы для «пралетарыяту», а ня толькі для партыйнай буржуазіі, ані Хрушчоў, ані ніхто іншы на зьезьдзе ані заікнуліся. Мы ведаем добра, што й «нутрапартыйная дэмакрацыя», гэта таксама толькі пусты прапагандны гук бяз аніякага рэальнага зьместу. Партыя як кіравалася, так і кіруецца далей не дэмакратычнымі прынцыпамі, не галасаваньнем, а загадамі політбюра ці проста сакратара партыі — Хрушчова.

Дык у істотных рэчах ніякіх зьменаў ані робіцца, ані навет абяцаецца. Наадварот. Той-жа Хрушчоў ня гэтак даўно

## «Новае пра Дуніна-Марцінкевіча»

**(«Літаратура і Мастацтва», 24. 3. 56)**

У Дзяржаўным архіве Менскай вобласьці захоўваюцца цікавыя матарыялы й дакуманты, якія адносяцца да жыцьця вядомага беларускага пісьменьніка В. Дуніна—Марцінкевіча. Гэтыя матарыялы праліваюць сьвятло на прагрэсыўную дзейнасьць пісьменьніка, знаёмяць нас з адносінамі Дуніна—Марцінкевіча да паўстаньня 1863 году, на чале якога стаяў рэвалюцыянэр-дэмакрат Кастусь Каліноўскі. Яны даюць падставу гаварыць аб тым, што Дунін—Марцінкевіч ня быў простым назіральнікам рэвалюцыйных падзеяў, а навет ускосным чынам прыймаў у іх удзел, за што быў арыштаваны, а затым аддадзены пад срогі паліцыйны нагляд, які працягваўся некалькі год.

Сярод папераў канцылярыі Менскага грамадзянскага губэрнатара знаходзіцца «Альфабэт ваенна-судовых і палітычных спраў ад 1863 да 1866 году». У гэтым альфабэце ў разьдзеле «Палітычныя», на лісьце 139, у графе «Прозьвішча людзей і назовы прадметаў» чытаем: «Марцінкевіч Вінцук, калескі рэгістратар, аб звальненьні яго спад арышту з адданьнем на паруку з устанаўленьнем суровага паліцыйнага нагляду із спагнаньнем з маёнтку ягонага «Люцынкі» павышанага 30-працэнтовага збору . . .».

У справах канцылярыі Менскага губэрнатара ёсьць таксама гадавыя ведамасьці асоб, якія знаходзіліся пад наглядам паліцыі. У ваднэй з такіх ведамасьцяў знаходзім імя беларускага пісьменьніка пад парадкавым нумарам 14. У графе «Чын, тытул, імя, прозьвішча й якое губэрні нараджэнец» чытаем: «Марцінкевіч Вінцук Іванаў, памешчык Менскага павету», а ў графе «На які загад і за што менавіта аддадзены пад нагляд« гаворыцца: «Паводля канфірмацыі памочніка галоўнага начальніка краю генэрал-лейтэнанта Манюкіна, паведамленай Менскаму губэрнатару ў рапарце ваеннага палявога аўдытарыяту з 6 сьнежня таго-ж году (г. зн. 1865 — А. С.) пад № 3775, у справе абвінавачаньня ў распаўсюджваньні Марцінкевічам між сялянамі шкодных ідэяў, у падазроных раьездах па Заходніх губэрнях і ў выданьні ў пачатку паўстаньня (мятежа) абуральнага твору ў простанароднай мове пад загалоўкам «Гутарка старога дзеда», а таксама за падтрымоўваньне ў маёнтку рэвалюцыйных гімнаў ды за ўзгадоўваньне свае сям'і ня ў духу аддаласьці Ураду, за што прызнаны палітычна ненадзейным».

У наступнай графе гэтае ведамасьці адзначаецца, што Дунін—Марцінкевіч знаходзіцца пад наглядам паліцыі ад 19 сьнежня 1865 году. Графа «На які тэрмін ці бяз тэрміну аддадзены пад нагляд і пад які менавіта: публічны ці сакрэтны» паведамляе: «Бяз тэрміну, пад срогі публічны», а далей гаворыцца — «У маёнтку Люцынкі». У графе: «Ці мае сям'ю і дзе яна знаходзіцца» адзначаецца наступнае: « Удавец, мае дачку Марыю, якая выслана на жыхарства ў ваддаленыя губэрні за сьпяваньне польскіх рэвалюцыйных гімнаў». У вапошняй графе «Атэстацыя» сказана: «Добрых паводзінаў і скрытнага спосабу жыцьця».

У сувязі з успамінаньнем у гэтай ведамасьці дачкі В. Марцінкевіча трэба спыніцца на дакумэнтах, якія адносяцца да справы «Марцінкевічавай дзяўчыны». Перш за ўсё трэба адзначыць, што дачка пісьменьніка, відаць, мела два ймя — Камілія й Марыя. Вось чаму ў вадных дакумэнтах яна абазначаецца пад імём Марыі, а ў іншых — пад імём Каміліі.

У знойдзеных архіўных дакумэнтах паведамляецца, што дачка Дуніна—Марцінкевіча знаходзілася ў менскай турме ў чэрвені месяцы 1863 году, гэта значыць з самага пачатку паўстаньня. Знаходзячыся ў менскім турэмным замку, Камілія Марцінкевіч трымала сябе «заганна». Аб гэтым сьветчыць перапіска паміж грамадзянскім і ваенным губэрнатарамі ды камісіяй для палітычных справаў, створанай у Менску ў часе паўстаньня 1863 году. Менскі грамадзянскі губэрнатар піша 9 жніўня 1863 году адносіну пад № 2331 у камісію для палітычных справаў:

«Імпэратарскай, у месьце Менску для палітычных справаў Камісіі.

Часовы ваенны губэрнатар Менскай губэрні й камандуючы войскам, якое ў гэтай апошняй знаходзіцца, адносінай з 7 жніўня пад № 1021, паведаміў, што наглядзік Менскага турэмнага замку заміэльдаваў яму, што букет кветак, які быў у руках праступніка, Жмачынскага, калі ён суправаджаўся на месца сьмяротнае кары, быў кінуты яму праз вакно затрымоўванай у замку дзяўчынай Марцінкевіч, і разам з гэтым просіць даручыць Менскай сьледчай камісіі ўзяць ад яе сьветчаньне, чаму яна гэта зрабіла, калі пісьмова абяцала ніколі ніякай маніфэстацыі не рабіць.

«З прычыны гэтага прапаную Камісіі ўзяць ад Марцінкевічавай дзяўчыны сьветчаньне аб вышэй закранутай справе ды перааказаць яго генэрал-лейтэнанту Забалоцкаму».

Такая-ж адносіна была паслана часовым ваенным губэрнатарам Менскай губэрні Забалоцкім у камісію для палітычных справаў у м. Менску 10 жніўня 1863 году пад № 1079:

«Сёлета 7 жніўня пад № 1021 я паведаміў менскаму грамадзянскаму губэрнатару, каб Камісіі было даручана ўзяць сьветчаньне ад затрымоўванай у турме дзяўчыны Марцінкевіча адносна букету кветак, перададзенага ёю праступніку Жмачынскаму.

«Бяручы сьветчаньне ад Марцінкевічавай, прашу зьвярнуць увагу на тое, адкуль яна ўзяла ўспомненыя кветкі і кім ёй былі яны прынесены ў турму?»

У вадказ на гэтую адносіну Камісія для палітычных справаў 12 жніўня 1863 году паведаміла ваеннаму губэрнатару:

«Выконваючы загад ВП (Вашего Превосходительства — А. С.), перададзены Камісіі начальнікам Менскай губэрні 9 жніўня № 2331, а таксама прапанову ВП зь 10 жніўня № 1079, Камісія гэтым мае гонар падаць сьпісанае ў турэмным замку сьветчаньне дзяўчыны Марцінкевіч адносна букету кветак, перааказанага ёю праступніку Жмачынскаму».

Нажаль, сьветчаньняў Каміліі Марцінкевіч пакуль што не ўдалося знайсьці ў Менскім абласным архіве.

Даволі цікавымі зьяўляюцца дакумэнты, якія датычацца пытаньня аб зьняцьці паліцыйнага нагляду з Дуніна—Марцінкевіча. У справах канцылярыі Менскага грамадзянскага губэрнатара захоўваецца просьба Дуніна—Марцінкевіча, у якой, між іншага, сказана наступнае:

«Маёнтачак мой так малы, што я толькі займаючыся рознымі справамі на даручэньне быў у змозе, хоць і бедна, утрымоўваць сваю сям'ю; аднак пасьля ўстанаўленьня нада мной паліцыйнага нагляду я, ня маючы права адлучыцца зь месца жыхарства, пазбаўлены даручэньняў, а разам з тым ня толькі жыцьцёвых сяродкаў, але навет магчымасьці аплачваць дзяржаўныя падаткі».

У гэтым прашэньні Дунін—Марцінкевіч зьвяртаецца з просьбай дазволіць яму атрымаць права пакінуць хутар Люцынку й наведаць м. Сьвянцяны, каб там весьці спадчынную справу нейкага Каржанткоўскага, што дазволіла-б яму «збавіцца ад галоднай сьмерці» ды значна паправіць матарыяльныя справы.

На гэтую просьбу Дуніна—Марцінкевіча з канцылярыі Менскага грамадзян-

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

**РЫГОР КРУШЫНА**

## ВЕРШЫ

### У ГУМНЕ

Сенавал. Там любжы зельле  
З расьцярушаным насеньнем.  
І ніводзін нат асьцюк  
Ня трывожыў целаў грэшных.  
На тарпу мурог сухі  
Шчасьце ведае чыё  
Так салодка енчыць.

Як гулялі, як дурэлі,  
Як куляліся на сене,  
Толькі бачылі — павук  
Із-пад крокваў на падстрэшшы  
Ды праз шчыліну страхі  
Залатое зайчанё —  
Сонечны праменчык.

* * *

Гляджу на косы сьветларусыя  
І гладжу кужаль гэты.  
Ізноў я мару Беларусяю,  
Тваім цяплом сагрэты.

Ты моцна тулішся. Ты згодная,  
Трымцівы цісну локаць.  
З табой прыемна ў хату родную  
Ўвайсьці і сесьці ў покуць.

### Я ЧУЮ ТВОЙ ГОЛАС

Мне жыць і цярпець між чужых накanована,  
Я вынясу злую бяду.  
Ты, любая, зьявішся песьняю новаю,  
Цябе ў родным слове знайду.

Як верадна смокча туга нясьціханая,  
Калі прыгадаю мой край.  
Сягоньня я чую твой голас, каханая.  
Сьпявай, дарагая, сьпявай!

Стаю ўсхваляваны ля радыёрупара.  
Здаецца, так блізка радня.  
Цудоўнай хвілінай я рады, я ў пурпуры  
Праменьняў прыгожага дня.

Мяне захапляе радзіма далёкая,  
Да сьветлых імкненьняў заве...  
Хай сьвету сьпявае мая сінявокая  
У вечным сваім характве.

### МНЕ ШКАДА

Зажурыўся сад улетку —  
Салаўя загналі ў клетку,  
Мне шкада...

У садку сарвалі кветку  
Начапілі на жакетку.  
Мне шкада...

Салавей прыціх у клетцы,  
Кветка вяне на жакетцы —  
Мне шкада...

Радасьць чыстая, сьвятая  
Харaством жалобным тае —  
Мне шкада.



**Возера Нарач пры месячным блеску. Із збораў др. Гоція**

перад зьездам партыі сказаў шчыра й адкрыта, што бальшавіцкая антынародная дыктатура ў СССР зьменіцца хіба толькі тады, «як рак сьвісьне».

Тыя-ж дробныя прапагандныя ўступкі, якія зробленыя, ці толькі прыабяцаныя для народу, ляжаць зусім не ў галіне правоў для народу, а толькі ягонага цяжкога матар'яльнага быту. І яны таксама ня ёсьць вынікам нейкіх паважнейшых пераменаў, а праявай толькі часовай няпэўнасьці дый слабасьці «калектыўнага кіраўніцтва» ці новага дыктатара. Гэта часовыя праявы незакончанага яшчэ «ўмацоўваньня» пазыцыяў кандыдата на новага татальнага дыктатара.

Што й уступкі матар'яльнага характару фікцыйныя, пра гэта сьветчыць тое, што разам з прыабяцаным скарачэньнем працоўнага тыдня на пару гадзінаў зьезд партыі пастанавіў павышэньне прадукцыі на 65% за наступную пяцігодку. Гэта мае быць дасягнута гэткім спосабам, што выдайнасьць работніка мае быць павышаная на ня менш як 50%. Калі выдайнасьць і прадукцыя мае ўзрасьці, пры скарачэньні гадзінаў працы, дык гэта ў савецкай сыстэме будзе зроблена толькі ведамым у Саветах спосабам: далейшым павышэньнем працоўных нормаў, — далейшаю непамернаю да сілаў чалавека акорднаю працаю й стаханаўскімі «спаборніцтвамі», якія нішчаць сілы й кароцяць жыцьцё падсавецкага работніка. Для калгасьнікаў дайшла яшчэ другая «перамена» на «лепшае» — касуюцца прысядзібныя дробныя дзялянкі, якія дагэтуль ня раз ратавалі сям'ю калгасьніка ад галоднай сьмерці.

Дык ніякіх істотных пераменаў у бальшавіцкай форме расейскай дэспотыі ня відаць, як-ня відаць і ніякага палепшаньня матар'яльнага палажэньня савецкага грамадзяніна. Дык дарма заходнія журналістыя прыдаюць гэтулькі ўвагі пераменам партрэтных дэкарацыяў, зацямняючы гэтым істоту справы. Ськіваньне Сталінавых іконаў мае абмежанае значаньне й чыста практычныя мэты для сучасных валадароў Крамля.

Найперш Хрушчоў намагаецца гэтак ськівуць зь сябе й партыі хоць частку адказнасьці за крывавыя злачынствы бальшавізму трох мінулых дзесяцігодзьдзяў. Гэта проба ачысьціць хоць часткова свае рукі з крыві замардаваных нявінных ахвяраў, што зусім на часе перад плянаванымі адведзінамі ў Англіі, дзе пэўне-ж прыйдзецца вітацца зь міністрамі, лёрдамі і навет з самой каралевай.

З другога боку ськіваньне Сталінавых партрэтаў мае напэўна й мэту ачысьціць месца для партрэтаў новых новага дыктатара, які прыйдзе на месца Сталіна. Можна быць пэўным, што Хрушчоў у гэтым выпадку думае не пра каго іншага, а толькі пра сябе. За гэтым гавора й той факт, што пры пасьмертнай чыстцы Сталіна атакуецца не сам прынцып дыктатуры адзінкі, — а толькі — «культ асобы». Дык дыктатура як такая не асуджаецца ў прошлым, ня выключаецца й на будучыню, толькі ганіцца яе выбуяласьць у форму абагомленьня дыктатара.

Дык усе шумныя цяперашнія «перамены» ў Саветах па сваёй істоце зводзяцца дакладна да той-жа формулы Тургенева пра расейскага Якава й Сідара гэта зьмена аднага дэспата, ці ягонага аўтарытэту, аўтарытэтам ягонага наступніка, другім дэспатам. Сама-ж дэспотыя, само дыктатарскае «самадзяржаў'е» трывае вякамі нязьменна далей.

Расейскі паэта Валошын у вадным з сваіх вершаў пра спрадвечны й нязьменны ў сваёй існасьці зялезны дух Масквы — «вецер Расеі», «вецер рэвалюцыі» — пісаў гэтак

В этом ветре — гнев веков свинцовых...  
Русь Малют, Иванов, Годуновых,  
Хищников, опричников, стрелцов,  
Свежевателей живого мяса —  
Честоногов, вихря, свистопляса,  
Быль царей и яв большевиков.  
Что менялось? Знаки и возглав'я! —  
Тот же ураган на всех путях —  
В комисарах — дух самодержав'я,  
Взривы революции в царях...

Дык зьмены істоты справы, нейкай зьмены спрадвечнага маскоўскага «самодзержавия» ня відаць і ў сучасных маскоўскіх камісараў, што сяньня топчаць тыя Сталінавы партрэты, якія яшчэ нядаўна самі насілі па вуліцах.

Дзеля гэтага ўсяго няма чаго спадзявацца нейкіх істотных пераменаў на лепшае ў жыцьці й долі падсавецкага грамадзяніна; ніякіх пераменаў істотных ня трэба спадзявацца й у галіне свабоды нацыянальнай паняволеных Масквою народаў. Можна, наадварот, ручацца, што ані свабода эксплёатаванага чалавека, ані свабода запрыгоненых народаў ніколі ня прыйдзе дабравольна з рук і ласкі крамлёўскіх дыктатараў незалежна ад таго, ці яны будуць хварэць на манію «культу асобы» ці не. Свабода прыйдзе толькі пад рэвалюцыйным ціскам самых гэтых народаў, або ў выніку разгрому маскоўскай турмы народаў звонку.

**4.**

Нявідаць аніякіх істотных пераменаў і ў вонкавай міжнароднай палітыцы Масквы. Хоць тактыка часам і мяняецца, хоць на месца інтрыгі й шантажу ня раз тарнуецца цяпер і зводная аблыжная ўсьмешка, галоўная мэта Масквы тая самая: панаваньне над сьветам. Яшчэ Карл Маркс пісаў: «Палітыка Расеі нязьменная... Яе мэтады, яе тактыка, яе манэўры могуць мяняцца, але палярная зорка ейнае палітыкі — панаваньне над сьветам — зорка сталая».

Масква й далей намагаецца замацаваць свае здабычы зь мінулай вайны дык увесь час не забывае спробаў знайсьці сабе здабычы новыя, адарваць ад вольнага сьвету далейшыя народы й краі, што відаць найлепш зь інтрыгаў ў арабска-жыдоўскай спрэчцы, або ў прапагандяай паездцы Хрушчова й Булганіна ў краі паўдзённай Азіі.

Іхныя атакі Заходу ў прамовах да народаў Азіі паказваюць, што Масква ў той самы час, як у межах сваёй імпэрыі вядзе сыстэматычную каляніяльную й геносыдна-русыфікацыйную палітыку да народаў нерасейскіх, у вонках свае імпэрыі яна выступае ў ролі абаронцы нацыянальных правоў і свабоды народаў ад каляніялізму й імпэрыялізму.

Масква з свае-ж практыкі ведае добра, што нацыянальныя пачуцьці, патрыятызм, імкненьне да нацыянальнай свабоды — вялікія палітычна-народныя сілы й магутныя гістарычныя фактары, здушыць якія можна толькі часова й толькі яшчэ большаю сілаю ўціску й тэрору. Вось сілу гэтую Масква й намагаецца выкарыстаць для сваёй міжнароднай палітыкі й сваіх інтрыгаў.

Прапагандныя ўдачы Хрушчова дый Булганіна ў Азіі паказваюць нам на тое, што Амэрыка й да гэтай пары ня выкарыстала сваёй найбольшай прапагандяай зброі — кансэквэнтнай атакі самой Масквы з пазыцыяў абароны народаў паняволеных. Амэрыка, якая сама была некалі калёніяй і ў змаганьні з каляніяльным імпэрыялізмам атрымала сваю незалежнасьць, мае якнайвыгаднейшыя выхадныя пазыцыі да дэмаскаваньня Масквы ў палітыцы ейнага імпэрыялістычнага захопніцтва, каляніяльнай эксплёатацыі народаў, геносыднай русыфікацыі. Амэрыка мае ўсе даныя й найбольшыя магчымасьці стаць вядучаю краінаю ў палітычным змаганьні за вызваленьне народаў зь зялезных клешчаў рабства найбольшае сучаснае імпэрыі сьвету — імпэрыі савецкай. Толькі зразуменьне Амэрыкаю гэтых вялікіх гістарычных магчымасьцяў і іхнае належнае практычнае выкарыстаньне загарантуе для вольнага сьвету перамогу над сьветам жорсткай антынароднай дыктатуры й прыгоннага рабства чалавека.

Пры сучаснай мадэрнай тэхніцы сьвет стаў гэткім невялікім, што доля народаў і далёкіх ад сябе апынулася ў цеснай сузалежнасьці. Сяньня можна ручацца, што калі ня дойдзе да вызваленьня Беларусі й іншых народаў Савецкай імпэрыі, гэта будзе значыць, што Масква свае імпэрыяльныя пазыцыі канчаткова замацавала й дні й амэрыканскае дэмакрацыі палічаныя. Вызваленьне-ж гэтых народаў будзе гарантыяй таго, што прынцыпы свабоды, роўнасьці народаў і дэмакрацыі перамаглі й што ня толькі воля, але й вядучая роля Амэрыкі сярод вольных народаў сьвету загарантаваныя на будучыню.

Што гэтую зялезную лёгіку сучаснага гістарычнага працэсу разумее сяньня ўсё больш Амэрыканцаў, сьветчыць пра гэта тое, што губэрнатары стэйтаў, у якіх скучаныя Беларусы, усё часьцей апавяшчаюць дзень 25 Сакавіка, дзень апавяшчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, урачыстым днём для ўсіх Амэрыканцаў. Калі вось уся Амэрыка й увесь вольны сьвет дойдзе нарэшце да такога-ж зразуменьня супольнасьці й непадзельнасьці справы свабоды народаў — тады можна будзе быць спакойным і за рэалізацыю Акту 25 Сакавіка для Беларусі й за далейшы лёс і волю ўсяго сьвету.

**25 Сакавіка 1956 году**  
**Нью Ёрк, ЗША**

**Я. Я.**

# Д Ы М

«Ты запеў нам песьню аб барох сасновых,
Аб пахілых ў полі сумных дзесяткох».

(Ларыса Геніюш)

Навеяўся на думку мне сяньня ўспамін.

Было гэта падчас вайны.

У Празе Чэскай, у маленькім, недарагім, але зносна выгадным пакойчыку, дзе на'т хапіла месца паставіць піяніна, шырока ведамы ня толькі нашаму грамадзтву, гордасьць нашай песьні, Міхась Забэйда-Суміцкі. Побач ягонага пакойчыку кватэраваўся, мо' ў трохі даражэйшым пакоі, бо з бальконам, хоць мала ведамы беларускаму грамадзтву, але добра ведамы Беларусам Прагі, інжынер Жук.

Вось, прытуліліся бокам два суродзічы ў нейкай зносна-людзкай Чэшкі.

Шмат гадзін праводзілі эмігранты разам. А што гутаркі было, што ўспамінаў?! Пра вазёры, пра ўюны, пра суседавыя дзічкі з-пад Косава! А прамаладосьць сколькі можна было нагутарыцца, бо як аднаму, так і другому доля манілася прыабяцать старакавалерства. Успаміналі кіслую капусту, бліны, калядны жур... Ды ці хопіць чарніла ў «вечным пяры», каб апісаць усе ўспаміны двух ... двух суседаў?

Жылі згодна, як гэта і павінна быць. Ды яшчэ і Беларусы: народ спакойны, уступлівы! Ды-й за што-ж было вадзіцца? Вераб'і дык за саломінку з вуліцы тузаюцца за чуб аж пер'е курыць. А ім ня жыць у згодзе? Кажны мае свой пакой, кажны сам за яго плаціць, кажны заняты сваёй працай. А калі знойдзецца якаясь вольная хвілінка, як гэта прыемна хоць успамінамі паблудзіць па тых сьцежках-дарожках, дзе, здаецца, каб туды вярнуцца, дык ня сьмеў-бы нагой ступіць, а з набожнасьцяй каленьмі-б поўзаў, ды яшчэ з чалавекам, які перажывае тое самае, адчуе найменшы ўдар сэрца і горыч сьлёз, што душаць за горла...

Гэта былі, ну, проста, ідэальныя суседзі-землякі! На'т і абставіны іх змусілі ўжо быць такімі.

Але, нажаль, закон жыцьця кажа, што ідэальных людзей няма!

Гэтае агульнае правіла ахоплівала і іх.

Першы зь іх (значыць — Міхаль) любіў песьню. Ён жыў, аб ёй лятуцеў, празь яе няраз жыцьцё сваё мог загубіць... Але што-ж! Такую Бог паслаў яму ўроду.

Песьня і толькі песьня!

Песьня, ды якая: Аб каласох, што гнуцца пад сярпом, аб ягадах, рассыпаных па моху, пра курганы старое славы, апісаных Купалам, пра вочы зорныя дзяўчат, пра Маладую Беларусь!..

Так, як сядзе за сваё піяніна ды тэнарам на ўсе лады замест сьнеданьня, абеду, а часам і вячэры ўсё пачынае, ды канчае, ды пачынае зноў:

«Ці грэх цябе любіць,
Як колас той у полі»...

або:

«Вольных песень нацеў
Вольны вецер табе»...

ці зноў:

«Цераз сад-вінаград»...

ці:

«Сьпі мой сыночак, засьні,
Курачкі ўжо даўно сьпяць»...

А калі ўваб'ецца ў міжнародны рэпэртуар дык «Рыголетто», «Кармэн», італьянскія, чэскія, славацкія, нямецкія, польскія, украінскія, расейскія, дык кончыць: «Лё-тюс, лё-тюс» далёкай рамантычнай кітайкі, бо ў Харбіне скончыў ўнівэрсытэт і быў 10 год настаўнікам у кітайскай школе, каб падзарабіць пару грошаў і паехаць у Італію закончыць музычную асьвету.

Пры надлюдзкіх высілках лятуценьні збыліся. Стаўся сьпеваком Мілянскай Опэры і славіў песьняй Беларусь!

Сусед таксама ня быў без заганы — курыў люльку.

Міхась меў цяжкое дзяцінства. Вядома, сірата! Маці служыла па людзях, каб хоць на страву ці кавалак хлеба дзецям зарабіць. Ён быў найстарэйшы, але што-ж, калі няўдаліца, ну, проста Бог пакараў бедную жанчыну — наракала суседкам. Каб-жа-ж людзкі, дык-бы мог і скаціну папасьці, усё-ж была-б дапамога, хоць-бы сябе пракарміў. А то ці яму стада ў галаве? Вось толькі й слухае, дзе якая птуха ў карчы ціўкае. Да вароны й то прыслухваецца! А ўжо калі пачуе, што касцы сьпяваюць, жнеі ці начлежнікі, дык хоць ты яго на гарачую галавешку пасадзі дык не агледзіцца. А зімою, на кудзяльніцы, дык босы бяжыць, калі лапці схаваю... бо там... сьпяваюць!.. Ой! пакараў мяне Бог, пакараў, ды за якія грахі — і сама ня ведала жанчына.

Всєь так і ўсюды — песьня і толькі песьня!

Хварэў часта; вядома, недагляд, дзе бяда, там і хвароба. Няраз здавалася, ужо ня вытрымае, Бог забярэ сабе, каб на гэтым сьвеце ня мучыўся.

Але вось ішлі хлапцы на вячоркі з гармонікамі, сьпявалі песьню.

— Мама, сьпяваюць? — пытае, ледзь-ледзь перадыхаючы.

— Сьпяваюць — кажа сумна маці.

І вочы адчыніліся і дзіўна заблішчэлі, як-бы кагось шукалі. Жыцьцё вярнулася ўжо з-за парогу!

Іншым разам, калі ў палонку на рэчцы ўваліўся, зноў, здавалася, апошні раз ужо гасьцём у хаце. Але йзноў з палацяў ціха, ледзь-ледзь пачуўся голас:

— Мама, што гэта шчабеча, ці ня ластаўкі?

— Ластаўкі, сынку, ужо прыляцелі.

А потым бусел клекатаў, а потым жабы рэхаталі, ды жоравы курлыкалі начамі.

Ня чула маці гэтых галасоў, але ён яе пераконываў, што чуў і дзівіўся, што яна ня чула, аж урэшце суседкі пераканалі, што праўда.

Жыцьцё і песьня — гэта адно...

А калі падрос, трапіў у горад, пачуў артыстых на эстрадзе... Жыцьцё і Песьня... Песьня і Жыцьцё...

Дык вось у Празе сядзе пры піяніне, песьціць квола клявішы і песьняй малююцца жытнія дзесяткі, песьняй пахнуць васількі. песьняй пояс слуцкі сьцелецца, песьняй слава спавіваецца...

Любіў песьню й інжынер Жук. Сам навет сьпяваў. Таксама ёмкі голас меў! А яшчэ калі трапіць да каго на імяніны! Эх! Людзі добрыя! Толькі трымайся! Ад брава аж вокны дрыжаць!

Хадзіў заўсёды на канцэрты Міхася. Біў у ладоні пакуль спухнуць, лыкаў сьлёзы, каб не расплакацца сярод публікі, так песьня за душу хапала.

Але калі песьня на сьнеданьне, на абед і на вячэру ды яшчэ і тая самая, а часта толькі яе пачатак ці канец, — людзі добрыя, мейце-ж літасьць!..

Інжынер, што так чула любіў слухаць песьню, зьнімаў бот, турляў яго з усяго размаху ў суседаву сьцяну, а ў дагонку яму (боту) крычаў на ўсю сваю поўаршынавую глотку:

— А каб ты заткнуўся з сваім горлам! Ці дасі мне спакойна люльку выкурыць?

Песьня заціхала, прытойвалася і толькі ў гэнае «горла» горычай падступалі сьлёзы. І пад такі настрой хацелася Міхасю сьпяваць на ўсё сваё «горла». Вось, здаецца, каб туды, у Косаўшчыну, ці пад Тэлеханы, вось-бы запяяў ня толькі на ўсё «горла», але-й на ўсе грудзі, аж-бы хмызьнякі ўздрыгануліся і засьмяяліся-б у моху журавіны!..

І сядзеў Міхась. не варушыўся, каб хоць не дакрануцца да клявішаў, бо йзноў «горла» абарве.

А ён бярог сваё горла, каб не застудзіць. каб гарачага ці халоднага не напіцца ці чагось алькагольнага не папала ў гэнае «горла»... А найгорай баялася Міхасёвае «горла» — гэта табачнага дыму. Калі ішоў із знаёмымі ў рэстаран, галоўна пасьля, як заўсёды, удалага канцэрту з возам кветак, мусілі выбіраць нейкі кут, куды не забрыў-бы цыгарэтны дым.

Сядзеў Міхась пры піяніне і ня крануўся.

Інжынер выкурыў, ня можна сказаць спакойна, сваю люльку, за гэты час грукнуў другім сваім ботам у вугал шапы, праехаўся крэслам па падлозе, ляснуў некалькі разоў шуфлядай століка і мармытаў нешта праз люльку, як мядзьведзь у логаве.

Паволі ўлягалася цішыня і калі было ўжо зусім ціха, інжынер, у шкарпэтках, каб не нарушыць адзяваньнем ботаў гэтае цішыні, выходзіў на калідор і лёганька стукаў у Міхасёвыя дзьверы. Не

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)

# Дзед-хуліган

Сустрэліся неспадзявана. На вуліцы. Ці, праўдзівей кажучы, на бруку сярод руінаў Менску. Пахла пагарэлішчам, восенскай золкасьцяй.

Стары інжынер Хадасевіч схапіў мяне аберуч за плечы й радасна ускрыкнуў:

— А-а! Вось і спаткаліся! Даўно ня бачыліся. Я ўжо думаў — не давядзецца, загіну, ня перажыву. Ажно тут раптам вайна. І, дзякуй Богу, я йзноў свабодны. Вы можа й ня чулі? Ня ведаеце? У турме сядзеў! Быў такі прыкры выпадак. На нашым заводзе рамантавалі машыну. Тэхнікі маладыя, а машына старая, з капрызамі. Пусьцяць у ход — загрукае, забразгае і раптам стане. Круціліся нашыя майстры над гэтай ламачынай, спрачаліся. Адзін тое раіць, другі — іншае. Ды нарэшце ўсё-ж такі мяне гукнулі. Безь мяне не дадуць рады.

— Паглядзеце, кажуць, таварыш інжынер, у чым тут загваздка? Чаму дае перабой? — Ну, я, значыцца, згадзіўся наладзіць. Пераглядаю ўсе дэталі, мяркую як і што. Ажно тут адзін камсамолец, скарасьпелы тэхнік, можна сказаць, недавучка свае заўвагі робіць дый раіць мне. — Вы, кажа, зрабеце гэтак, папрабуйце вось так. — Маўчаў я спачатку, маўчаў, а потым няўсьцерп сталася. Адштурхнуў таго хлопца ад машыны. — Ты, кажу, зялёны яшчэ, каб мяне, старога спэца, вучыць. Лепш вазьмі хустачку й свой нос абатры. Сказаў гэта, як адрэзаў. А ня ведаў, што на маю галаву бяда зваліцца. Паклікаў мяне дырэктар заводу ў свой габінэт. — Што гэта вы нарабілі? — пытаецца. — У турму захацелі сесьці! Вы, кажа, ведаеце, чым гэта можа скончыцца, Прыпішуць вам хуліганства й год прымусовай працы прысудзяць. Лепш, кажа, прабачэньня ў тэхніка папрасеце. Гэтым самым і канфлікт, так сказаць, самазьліквідуецца.

І тут-жа бачу тэхнік у габінэце стаіць. Як чорт ухмыляецца, расьце ад слоў дырэктаравых. Тут, ведаеце, мяне, як гарачым вугалем прыпякло. Я й кажу дырэктару: — Дайце мне спакою. Не хачу я кланяцца невуку ды яшчэ прабачэньня прасіць. Няма падставы ніякай. Я-ж маю свой гонар. Вось так і сказаў. І ведаеце што? За гэта... горка паплаціўся. Якраз тады закон вышоў. За ўсякую праяву хуліганства на год прымусоўкі сасуджваць. А нам-жа ведамы савецкі парадак. Калі якая кампанія праводзіцца, дык за абы-што чапляюцца. Вось і прычапіліся да мяне. Штурхануў, кажуць, тэхніка, аблаяў яго, невукам абазваў у прысутнасьці начальніка. Хіба гэта ня хуліганства? Даравац, кажуць, ня можна. І вось засудзілі. Бяда ды сьмех. Да чаго дажыў. Стары чалавек, маю ўнукаў, усе мяне паважаюць, і раптам — хуліган. Дзед-хуліган! Так сказаць, суцэльная недарэчнасьць. Бо й запраўды! Дзе вы, даражэнькі, на сьвеце знойдзеце такое права, апроч савецкага, каб чалавек на восемдзесятым годзе свайго жыцьця шмат працаваў ды яшчэ за глупства ў турме сядзеў.

— Вам сьмешна. Усё гэта, як быццам жартам здаецца. А я вам, па шчырасьці, праўду кажу. Над чалавекам зьдзек учынілі.

У старога інжынера на вачох выступілі сьлёзы. Ён таропка абцёр іх сіняй хусткай, закашляўся нібы ў яе, і раптам. працягваючы мне руку, сказаў:

— Бывайце здаровенькі. Сьпяшаюся дахаты...

К. Рамановіч

# «Новае пра Дуніна-Марцінкевіча»

(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)

скага губэрнатара паступіла на ймя павятовага спраўніка аднэсіна, датаваная 20 студзеня 1870 году:

«Сакрэтна.

«Сп. Менскаму павятоваму Спраўніку.

«Памешчык Менскага павету Вінцук Іванаў Марцінкевіч хлапоча аб асзабаджэньні яго ад нагляду паліцыі.

«Перад тым як задаволіць гэтую просьбу, загадваю Вашаму Высокаблагародзьдзю падаць мне весткі аб спосабе жыцьця Марцінкевіча, надзейнасьці ў палітычным і маральным сэньсе ды Ваш высnaў, ці можна Марцікевіча звольніць ад нагляду паліцыі».

У адказ Менскі павятовы спраўнік пісаў:

«Сакрэтна.

«Ягонаму Правасхадзіцельству Спадару Менскаму Губэрнатару, Менскага павятовага спраўніка

Рапарт.

«Выконваючы загад В. П. з 20 студзеня пад № 330 маю гонар данесьці, што хоць памешчык Вінцук Іванаў Марцінкевіч ад часу ўстанаўленьня над ім нагляду, з 1836 году. вядзе сябе добра і ў нічым заганным, у палітычным сэньсе, не заўважаны; аднак бяручы наўвету вельмі складныя шкодныя ягоныя уплывы, за якія ён прызнаны ненадзейным і за гэта аддадзены пад нагляд, а таксама й тое, што дачка яго, Марцінкевіча, дзеля палітычнай ненадзейнасьці выслана з Краю ў ваддаленыя губэрні. я з свайго боку ўважаў-бы звальненьне Марцінкевіча ад нагляду паліцыі передчасным і неабходным для прадаўжэньня.

«Павятовы спраўнік А. Сараеў.
№ 154
«6 лютага 1870 году».

Узяўшы ў васнову рапарт павятовага спраўніка, менскі губэрнатар налажыў наступную рэзалюцыю на просьбе Дуніна—Марцінкевіча:

«Ходаньня М. Губ. Двор. (Менскага губэрскага маршалка. — А. С.) аб звальненьні Марцінкевіча спад нагляду паліцыі ня выконваць. Адмовіць».

Такім чынам, у 1870 годзе Дунін—Марцінкевіч знаходзіўся пад срогім хатнім арыштам, ня маючы права нікуды адлучыцца із свайго хутару без дазволу паліцыйных уладаў. Калі быў зьняты зь яго паліцыйны нагляд, застаецца пакуль што невядомым.

Новыя архіўныя матарыялы пра В. Дуніна—Марцінкевіча дапамогуць літаратуразнаўцам больш грунтоўна вывучыць жыцьцёвы й творчы шлях гэтага выдатнага беларускага пісьменьніка XIX стагодзьдзя.

А. Семяновіч

ЯКУБ КОЛАС 20)

# У палескай глушы

Чаму? Самі ведаеце чаму: як толькі вашы ногі пераступяць парог яе дому, то душа ваша пападзе да яе ў палон.

Лабановіч усьміхнуўся.

— Вы навет і гэтага не забылі.

— Хто вам казаў легенду аб палескіх прыгожых паненках? — запытала панна Ядвіся, палажыла сваю работу на стол і глянула на настаўніка.

— Гарэлка пана падлоўчага з аднаго боку...

— І панна Людміла — з другога, — падказала Ядвіся.

— Што вы мне ўсё паннаю Людмілаю папракаеце?

— Я не папракаю, і ня думаю навет, але панне Людміле вельмі спадабалася гэта легенда.

А вам яна спадабалася?

— Каб яна для мяне казалася, тады і мне спадабалася-б, а чужое любіць — толькі сэрца пераядаць.

— Ну, вы мяне, панна Ядвіся, хочаце ўсердаваць, але вам гэта ня ўдасцца. А покі што бывайце здаровы.

Лабановіч затрымаў яе руку і зь нейкаю просьбаю ў голасе сказаў ёй:

— Вы ня выедзеце, покі я не вярнуся?

— Калі я паеду, я і сама яшчэ ня ведаю. А можа, і зусім не паеду.

— А вы пад машыну ня будзеце кідацца? — ціха спытаў ён яе, усьміхаючыся.

— Ня буду, — яшчэ цішэй прамовіла яна, азірнулася і апусьціла вочы.

Ён умомант пахіліўся да яе і пацалаваў крэпка-крэпка. І п'яны ад гэтага пацалунку, борзда вышаў з палісаднічка. А панна Ядвіся сядзела, нахіліўшы галаву, і аб чымсьці моцна-моцна задумалася.

У нядзельку раненька. на ўсходзе сонца, настаўнік із сваімі вучнямі, правёўшы ноч на станцыі, садзіўся ў вагон. Прабілі тры званкі, гучна і адрывіста азваўся паравоз, збуджаючы ранічны спакой бясконцых балот, і поезд зрушыў зь месца. З шумным шыпеньнем выпускаючы пару, усё быстрэй і быстрэй бег паравоз ,і ў нейкую сваясаблівую, глухую музыку зьлівалася тухканьне цяжкіг ног поезду.

Лабановіч стаяў каля расчыненага акна. Штось прыемнае і радаснае ўлівалася яму ў душу ад гэтых новых малюнкаў і ад гэтага размашыстага бегу машыны. Борзда адыходзіла назад станцыя з высокаю вадакачкаю, закрываючыся сьвежаю зеленьню расьлін. Рассыпаючы сноп залатых стрэл, велічна выплывала сонца з-за краю зямлі над прасторамі зялёнага палескага мора. Хутка вынікалі і беглі ўсё новыя і новыя малюнкі гэтага зачараванага краю. Балоты з густымі зарасьлямі лазы, кустоўніка і маладой асакі расьсьцілаліся шырачэзнымі круглымі абшарамі, па краёх якіх ледзь віднеліся зубатыя цёмныя палоскі лясоў. Балоты канчаліся, побач дарогі ўставалі высокія сьцены бору, бор перасякаўся вясёлымі палянкамі; там-сям віднеліся на іх людзкія будынкі, а бярвеньні гэтых будынкаў, асьветленыя сонцам, здаваліся маршчынамі на разумнай галаве чалавека, які многа думае і разважае. Вясёлыя палянкі абводзіліся апраўаю пышна-зялёных хвойнікаў на жоўценькім пясочку. Нейкім прыветам, ласкаю і цішынёю патыхала ад гэтых сакавітых хвойнікаў, ад гэтых людзкіх будынкаў. А як прынадна і прыгожа павіваліся і беглі ў хвойнік каляінкі вясковых дарожак і сьцежак, па якіх так рэдка пракоціцца сялянская цялежка! А колькі самабытнага хараства ў гэтых адзінокіх разложыстых дубох, раськіданых па краёх лесу, і гэтых пышна-купчастых хвоях у полі! Чымся родным, мілым, даўно знаёмым веяла ад аксамітных абрусоў маладога жыта і ад кволых бледназялёных усходаў раньніх аўсоў!

Лабановіч стаяў каля акна, як прычараваны, і не адводзіў вачэй ад самавітых, простых малюнкаў Палесься, поўных няярыразнага хараства і жыцьця, стаяў да таго часу, пакуль машына ня стала набліжацца да тае станцыі, дзе трэба было выходзіць.

Вышлі з вагону і пайшлі шукаць школы. Школа была ня вельмі далёка ад станцыі, і шукаць яе прышлося нядоўга. Тры вучні і чацьверты настаўнік узышлі на ганак школы і спыніліся.

Школа была замкнёна. Лабановіч пастукаў, крыху пачакаў, але нікога там ня чуваць было. Пастукалі яшчэ раз. Таксама ніхто адтуль не адклікаўся. Урэшце Лабановіч угледзеў званок. Пазваніў. Зараз дзесь у сярэдзіне адчыніліся дзьверы і пачуліся крокі, досыць рашучыя, і з-за дзьвярэй чыйся голас, таксама срогі, прамовіў:

— Хто?

— Цельшынская школа.

Дзьверы зараз-жа адчыніліся і паказалі фігуру гаспадара-настаўніка. Трахім Пятровіч Грынько, мужчына гадоў пад трыццаць пяць, толькі што памыўся. Валасы яго былі прычэсаны набок, адна дугавідная пасма валасоў тырчэла над ілбом і надавала Грыньку выгляд вучонага чалавека, а рэдкія доўгія вусы рабілі яго срогім настаўнікам.

— Што-ж гэта так рана? — спытаў Грынько, пазнаёміўшыся і павітаўшыся з калегам.

— Няхай сабе хлопцы агледзяцца і азнаёмяцца із школаю. Часу ў нас хапае, — адказаў Лабановіч.

— І то праўда, — ужо больш мякка прамовіў Грынько. Як відаць, у гэтым ходзе калегі Грынько заўважыў значную долю пэдагагічнай стратэгіі і адразу прасякся да яго павагаю.

Вучняў увялі ў школу.

— Вось тут можаце сабе сядзець, хадзіць і спаць, — сказалі ім настаўнікі, а самі пайшлі ў пакой Грынька.

Кватэра тутэйшага настаўніка зразу кідалася ў вочы кажнаму чыстым выглядам і сваім убранствам. На сьценах віселі розныя фатаграфіі, малюнкі ў прыгожых аправах, мяккая, абітая чырвоным плюшам мэбля, каберац каля стала, прыгожы абрус, — усё казала за тое, што Грынько жыў панам. У яго была цэлая гаспадарка: дзесяцін тры агароду, столькі-ж сенакосу, была карова, сьвіньні, на двары хадзіла432 рознае птаства пад пільным і дбалым наглядам гаспадыні.

Лабановіч у параўнаньні з Грыньком быў горкі пралетар, і ён навет із зьняваглю паглядзеў на свой сурдут, які ён купіў у Курульчука за два рублі з палавінаю і ў якім ён, асабліва ззаду, вельмі змахваў на местачковага рабіна.

### XXXIV

Каля восьмае гадзіны раніцы пачалі зьязджацца іншыя школы. То той, то другі настаўнік з кучкаю сваіх выхаванкаў узыходзіў на ганак і з шумам уводзіў іх у школьную залю. Тут ён даваў розныя інструкцыі і заканчваў іх звычайна так:

— Толькі ня трэба труса задаваць: глядзі сьмела, кажы адважна, рэж з-за пляча — храбрасьць гарады бярэ!

Паддаўшы такім чынам духу, настаўнік заходзіў да Трахіма Пятровіча, захоўваючы яшчэ на сваім твары тую сьмеласьць і рашучасьць, якімі ён толькі што начыняў сваіх вучняў.

Іншыя настаўнікі, наадварот, доўга заставаліся ў школе пры вучнях і тлумачылі ім, дзе, у якіх выпадках трэба паставіць той ці іншы знак прыпынку, і вялі навет папярэднія экзамен. Пакінутыя адны, вучні памаленьку пачыналі разварушвацца, знаёміцца паміж сабою — часта пры дапамозе кулакоў, штурханоў, высьмейваньня адных другімі і даваньня мянушак.

Звычайна на экзамены зьбіралася пяць-шэсьць школ. Тут ужо можна было лягчэй паназіраць настаўнікаў розных тыпаў. Рознасьць іх выяўлялася і з чыста надворнага выгляду. Тут можна было спаткаць прылізанага зуха із спрытам і нахіленьнем да жаночага роду; былі і выяўна зьняважлівыя да розных умоўнасьцей грамадзкай прыстойнасьці: мелі доўгія валасы, і адным словам, насілі на сабе ўсе адзнакі нігілізму, як пратэст супраць свайго бяспраўя і нязначнасьці становішча ў грамадзтве. Былі і такія, што ўсё асьмейвалі, на ўсё пазіралі звысоку і, прачытаўшы Дрэпера або Бокля, лічылі сябе ў высокай меры сьвядомымі і начытанымі і ўжо на валаснога пісара глядзелі так, як вучоны на якога-небудзь мікроба. Людзі-ж пажылыя, жанатыя, цікавіліся болей гаспадаркаю і кавалкам

# Водгукі сьвяткаваньня 25-га Сакавіка

## 25 Сакавіка ў амэрыканскай прэсе

У падгатоўцы да сьвяткаваньня 38-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Акруговая Ўправа БАЗА ў Нью Ёрку зьвярнула асаблівую ўвагу на вонкавы бок. У сувязі з гэтым быў выдадзены адмысловы прэсавы камунікат у ангельскай мове, які быў распаўсюджаны па цэлай Амэрыцы. Да гэтага былі выдадзеныя яшчэ два камунікаты: адзін канцылярыяй Бургамістра Нью Ёрку, у сувязі з абвешчаньнем дня 25 сакавіка Беларускім Днём у Нью Ёрку, а другі — Галоўнай Кватэрай рэспубліканскае партыі штату Нью Ёрк, у сувязі з прамовай кангрэсмэна Франціса Э. Дорна на Акадэміі 25 Сакавіка.

Бязумоўна. усё гэта ды прыгатаваная й загадзя разасланая праграма сьвяткаваньня ў ангельскай мове, дапамагло спрыяючым нам народам і разумеючым справу Амэрыканцам у рыхтаваньні вестак аб беларускім народзе, ягоным імкненьні да незалежнасьці ды сакавіковых урачыстасьцях.

Тутака пастараемся разгледзець тыя газэты, якія пісалі на сваіх балонах аб сакавіковым сьвяткаваньні ў Нью Ёрку.

**„Brooklyn Daily“** з 30 сакавіка зьмясьціла вялікую здымку з Акадэміі 25 Сакавіка з адпаведнай зацемкай.

**„New York Herald Tribune”** з 2 красавіка зьмясьціла інфармацыйны артыкул аб рэакцыі маскоўскага часапісу «Новое Время» на абвешчаньне Бургамістрам Нью Ёрку дня 25 сакавіка 1956 г. Беларускім Днём у м. Нью Ёрк (гл. «Б-на» з 8 красавіка).

**„New York World Telegramm”** з 3 красавіка таксама зьмясьціў камэнтар на артыкул у савецкім часапісе «Новое Время», які атакуе Бургамістра Нью Ёрку сп-ра Вагнэра.

**„Stamford Advocate”** з 23 сакавіка, між іншага, піша: «Аддзел БАЗА ў Стамфорд, старшынём якога зьяўляецца Э. Протас, возьме ўдзел у сьвяткаваньні 38-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, якое адбудзецца ў Нью Ёрку ў Балтымор Готэль. Далей газэта піша: «25 сакавік зьяўляецца традыцыйным сьвятам беларускай незалежнасьці, абвешчанай Кангрэсам у Менску ў 1918 годзе. Маладая рэспубліка пала ахвярай чырвонае арміі і трактатам, падпісаным у Рызе; тэрыторыя яе была падзелена між Расеяй і Польшчай».

**«Новое Русское Слово»** з 18 і 22 сакавіка, у аддзеле «Хроніка», падало аб тым, што Беларусы будуць сьвяткаваць 38-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР, пры гэтым дакладна падаючы прабег сьвяткаваньня. Але на гэтым ня кончылася, бо ў нумары з 25 сакавіка чытаем «Пісьмо ў Рэдакцыю» пад загалоўкам «З нагоды прыезду ў ЗША Прэзыдэнта Беларускай Рэспублікі», падпісанае — «Об'единение белорусов-федералистов, член Блока Националов». Дык вось што гэтыя «беларусы-фэдэралісты» з «блёку нацыяналаў» пішуць: «У сувязі з тым, што прэса падала вестку аб прыезьдзе сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка ў ЗША... «Об'единение...» лічыць патрэбным сьцьвердзіць, што беларускі народ ніколі ня выказваўся за аддзяленьне ад Расеі, і ніколі наагул ня выбіраў ні сп. Абрамчыка, ні кагосьці іншага сваім прэзыдэнтам». Далей гаворыцца: «Камунікат у вольнай прэсе аб прыезьдзе сп-ра Прэзыдэнта будзе выкарыстаны савецкаю прапагандаю, як доказ таго, што вольны сьвет імкнецца падзяліць СССР. У сувязі з гэтым, мы паслалі Дзяржаўнаму Дэпартамэнту мэмарандум з падробным паясьненьнем існуючых на эміграцыі ўрадах Беларускай Народнай Рэспублікі». Канчаецца ліст так: «Кантакт гэты толькі на карысьць камунізму й ягонае прапаганды, дзеля гэтага шкодны вольнаму сьвету й справе барацьбы супраць камунізму».

Такую бязглуздзіцу ў газэту і ў Дзяржаўны Дэпартамэнт можа толькі напісаць і памясьціць «Новое Русское Слово», бо ведама, што гэтых «беларусов-федералистов» у Нью Ёрку няма, хіба за выняткам аднаго, а іхная дзейнасьць праяўляецца ў форме падобных лістоў на балонах успомненае расейскае газэты, якая, як відаць, ёсьць і гэтым «об'единением» і аўтарам памешчанага «пісьма». У вадказ на гэта хай будзе ім рэакцыя маскоўскага часапісу «Новое Время». Хай цяпер пераканаюцца, чыя дзейнасьць на руку камуністым і наагул расейскім імпэрыялістым усякага колеру — ці дзейнасьць беларускай эміграцыі й Рады БНР ці дзейнасьць Марка Ефімавіча з «Нового Русского Слова» і створанага ім «Об'единения белорусов-федералистов».

**«Свабода»**, украінскі штодзёньнік, 25 сакавіка зьмясьціў на першай бачынцы абшырную інфармацыю з прабегу акадэміі 25 Сакавіка, камэнтуючы прамовы кангрэсмэна Дорна і К. Мерляка. У гэтым-жа нумары быў зьмешчаны іншы артыкул аб гістарычных падзеях і абставінах, у якіх была абвешчана незалежнасьць БНР.

**«Еднота»**, славацкі тыднёвік, 28 сакавіка зьмясьціў кароткую інфармацыю, падаючы вытрымкі з прамовы д-ра Паўчо, генэральнага сакратара Славацкай Лігі ў Амэрыцы.

**«Новы Сьвят»**, польская штодзённая газэта, падала 24 сакавіка вестку ў хроніцы аб беларускім нацыянальным сьвяце з праграмаю сьвяткаваньня. Гэтая-ж газэта з 4 красавіка зьмясьціла абшырны артыкул пад загалоўкам «Дзень незалежнасьці Беларусі ў Нью Ёрку», у якім апісваецца прабег сьвяткаваньня, падаецца сьпіс прысутных гасьцей ды камэнтары ў сувязі з абвешчаньнем дня 25 сакавіка Беларускім Днём у м. Нью Ёрк ды ў штаце Нью Джэрзі.

**„Staats-Zeitung Herald“**, нямецкі штодзёньнік, 18 сакавіка зьмясьціў кароткую гістарычную даведку аб 25 Сакавіку й падаў праграму сьвяткаваньня ў Нью Ёрку.

**К. Мароз**

# У паняволенай Беларусі

### ПА ДВА ГАЛЁШЫ НА АДНУ НАГУ...

**(«Чывоная Зьмена», 31. 3. 56)**

Вучні тэхнічнага вучылішча № 6 места Баранавічы залічаны на дзяржаўнае забесьпячэньне. Прайшло ўжо больш за чатыры месяцы з пачатку заняткаў, але да гэтага часу адміністрацыя не паклапацілася аб вучнях. Выхаванцы 11-й і 13-й групаў радыятэхнікаў не атрымалі чаравікаў, суконных касьцюмаў. **Рамяні паясныя выдалі, а спражак да іх няма. Шмат хто атрымаў галёшы, але... два на адну нагу.**

Ня ўсе вучні вучылішча атрымалі месца ў інтэрнатах. Некалькі пакояў, адведзеных для вучняў, займаюць майстры зь сем'ямі. Крыкі дзяцей перашкаджаюць выхаванцам вучылішча рыхтавацца да заняткаў.

**І. Мельнічэнка**

☆

### САВЕЦКАЯ ЛАЗЬНЯ

**(«Зьвязда», 30. 3. 56)**

Пры Крычаўскім цэмэнтным заводзе ёсьць лазьня, але... Каб памыцца, трэба патраціць шмат часу. **Гадзіны дзьве прыходзіцца стаяць у чарзе па білет, а потым 30—40 хвілін па тое, каб набраць вядро вады.** Краны няспраўныя, часта вада зусім выключаецца.

**І. Кавалёў**

# Зь дзёньніка Рэдактара

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

транзытных прывалаў, аж да кватэры Рэдактара, а гэтым самым і да месца паходжаньня дзёньніка. Тут пачало мяне мучыць сумленьне: «Да чаго ты дапусьціўся? Дзе-ж твая журналістычная дэнтысталёгія?» (заўв. Рэдакцыі: аўтар хіба мае наўвеце дэанталёгію — навуку аб прафэсіянальнай маралі).

І сумленьне-ткі перамагло. Пастанавіў я ня студыяваць дзёньніка, а вось проста кінуць на яго вокам, а пасьля, пры першай нагодзе, зьвярнуць яго праўнаму собсьніку.

Браткі — кінулі-б вы вокам, ня вытрывалі-б і вы, каб не падзяліцца зь іншымі. А тутака яшчэ такая нагода — 300-ы нумар «Бацькаўшчыны»!

Эх, думаю, усяроўна ня мінуць мне ліха з Рэдактаравага боку. «Бацькаўшчына» — гэта ўжо цэлая эпапэя, пра яе некалі кнігі пісаць будуць. Дык чаму ня прывесьці некалькі вытрымак зь дзёньніка Рэдактара? І чытачом будзе добра, і яму няпрыемна.

Аднаго дня ў 1950 годзе ён пісаў: «Напісаў два артыкулы. Добрыя артыкулы, даўгія — хопіць на гэты нумар, застанецца яшчэ й на наступны...»

І крыху пазьней: «Прыслалі два артыкулы збоку. Адзін і так і сяк. Другі дрэнь але зьмясьціць трэба, бо аўтар анатэму наложыць».

1951 год: «Прыехаў у Мюнхен нейкі **пс.** Кажуць, што навет добры журналісты — як гаворыцца, і да пяра і да бутэлькі. Чудзесна!»

Некалькі тыдняў пасьля: «Баліць галава. Учора вечарам сустрэўся із **пс.** Во была сустрэча! Здаецца, пілі навет брудэршафт. Памятаю, што лаяў мяне за папраўкі ў ягоным артыкуле. Казаў, што «Бацькаўшчыне» трэба сьвежы подых. Але што ты зробіш, калі я ледзь не затхнуўся гэтым подыхам? Мусіць старэю...»

... Атрымаў некалькі карэспандэнцыяў з-за акіянскіх краінаў у ваддзел «Зь беларускага жыцьця». Толькі пасьпеў зьмясьціць, і зараз-жа атрымаў лісты ад іншых з лаянкай за дэзынфармацыю. Ужо думаў выбачыцца ў газэце, як атрымаў яшчэ лісты, дзе пішуць, каб ня верыў ні адным ні другім. Што рабіць?

1952: «...Што рабіць зь „Літаратурным Дадаткам”? Паэты то ў нас плодныя... Ёсьць, праўда, у партфэлі бачынаў зь 200 урыўкаў раманаў, але да гэтага часу аўтары ня прыдумалі, як гэтыя раманы будуць звацца».

«... Дзе дастаць папярэднія гадавікі, ці хоць нумары «Бацькаўшчыны»? Адміністратар казаў, што ён бачыў нейкія скрынкі ў кагосьці на кватэры — можа там і «Б-на». Бяда толькі, што ня можа прыпомніць, у каго ён іх бачыў. Ну, але нічога: рэдкасьць — гэта паказьнік вартасьці. Хай пасьля дасьледнікі паломяць галаву».

«...Прыпадкова папалі ў рукі «Каласкі». Пачаў чытаць і прачытаў ад дошкі да дошкі, чаго зы мной ніколі не здаралася. Цікавы часапіс!»

1953: «Атрымаў дзьве карэспандэнцыі з Аўстраліі, загалоўленыя „З грамадзкага жыцьця”. У іх падаецца да ведама, што ў Аўстраліі адзін крывіч зьвіхнуўся з правільнага шляху, а два зарубежнікі пабілі прадстаўніка трэйцяй сілы. Вынік: вывіхнутая ськівіца й два выбітыя зубы. Жыве яшчэ душа ў народзе гэтым — жыцьцё кіпіць!».

1954: «Прыехалі маладыя з Бэльгіі. З рагамі. У „Б-не” толькі й відаць такія загалоўкі: „Перабудаваць!”, „Захаваць!”, „Не забыцца!”. Гэта Будзіч. Але нічога, з часам устаткуецца. Немановіч прабуе мудрагеліць, а Папліска лае ўсіх, акрамя сябе. Гэты апошні, праўда, здаравенны гуль...».

Апошняга слова, дарагія чытачы, я ніяк не разабраў. Вельмі-ж неразборлівы почырк у нашага Рэдактара. Камбінаваў я доўга, які камплімэнт можа пачынацца на «гуль». Нічога ня прыдумаў — мусіць нейкае замежнае слова.

1955: «Прыехаў яшчэ адзін — Галубіцкі. Выглядае на талковага. Жаліцца толькі, што калі пачынае пісаць артыкул, дык ахоплівае яго такая злосьць, што гатоў-бы разьнесьці ўсіх. Толькі піва яму памагае. Я яго поўнасьцяй разумею.

«А наагул, хлапцы нядрэнныя, толькі што часам іх завуць „крыжаносцамі”. Да гэтага, ня хочуць пісаць. Калі так будзе, зракуся».

«...Навіна: прыехаў з Амэрыкі адзін наш паэта. Пры першай нагодзе пытаўся ў мяне, якое ў нас у рэдакцыі памешканьне ды колькі платных супрацоўнікаў ды машыністак. Каб ня ўдарыць тварам у гразь перад Амэрыкай, я адказаў, што думаем будаваць новы дом, а супрацоўнікаў і машыністак ніколі дакладна ня лічыў. Але трэба ўсё-ткі сказаць, што наш паэта ня зусім замэрыканізаваўся, бо за свае творы яшчэ дагэтуль не запатрабаваў ганарару... Ага, чамусьці ганарары навялі мяне на думку, якая мучыць мяне ўжо даўно: чаму ад часу дзейнасьці Беларускае Сэкцыі Інстытуту Вывучэньня СССР, шмат хто з былых супрацоўнікаў „Б-ны” перастаў пісаць у газэту? Чым гэта можна высьніць?».

«...Сяньня атрымаў прыватны ліст з Аўстраліі. Пішуць, што ў Ангельшчыне быў міжнародны зьезд журналістых, дзе нашы вельмі добра папісаліся. Трэба мусіць з гэтага ліста скамбінаваць зацемку ў „Б-ну”. Лепш акружная дарога, чымся ніякая...».

«Зракаюся! Ня пішуць у газэту навет свае. На наступным паседжаньні абавязкава зракуся».

«... Урэшце выпхнулі ў сьвет Альманах „Ля чужых берагоў”. У нашых тут эдразу зьявілася думка выпусьціць наступны — „На чужых берагох” з падзагалоўкам „У саладусе”. Трэба будзе падумаць».

1956: «Сёлета, лёнданскія Беларусы чамусьці не адзначылі 25 Сакавіка, бо аб гэтым сьвяткаваньні ня пішуць мне нічога навет з Аўстраліі».

«...З новага супрацоўніка, што нядаўна прыехаў у Мюнхэн, я задаволены. Неяк быў падрадзіўся напісаць артыкул, а цяпер ужо піша сямнаццаты працяг. Здаецца, яшчэ хопіць на паўгода».

«...Зракаюся! Ужо панядзелак, а крыжаносцы яшчэ нічога не напісалі... Стой — прыйшла ў галаву думка: што каб завесьці гумарыстычны дадатак да „Б-ны”? „Шарсьцень” ужо здаўся, а людзі гумар любяць. У наступным годзе трэба будзе падумаць...».

Вось вам, дарагія чытачы, насьпех колькі вытрымак зь дзёньніка Рэдактара. Насьпех, бо калі мяне гэты самы Рэдактар прыловіць, дык ня толькі не папасьці мне на сьвяткаваньне юбілейнага нумару — а такая нагода! — але чаго добрага, давядзецца насіць сонечныя акуляры, хоць надвор'е тут зусім ня сонечнае. Але я аптымісты...

**Архіп Папліска**

---

хлеба, чым школамі і навукамі; гэта былі ўжо людзі пакорлівыя, якія лічылі сваім абавязкам лішні раз пакланіцца начальству.

Само начальства, інспэктар Хрысьціцкі, прыехаў гадзіну таму назад, але ў школу яшчэ ня прышоў. Ён спыніўся ў мясцовага папа-акадэміка Пражорыча, бо і сам інспэктар таксама быў акадэмік; у настаўніка ён начаваў толькі тады, калі ня было дзе прыпыніцца.

Настаўнікі сядзелі ў кабінэце Трахіма Пятровіча і аб сімтым гаманілі, пераважна аб экзаменах і аб інспэктару. Адны знаходзілі яго чалавекам, зь якім яшчэ жыць можна; другія-ж наадварот, даводзілі, што ён — прыдзіра, з кажнага глупства робіць цэлую справу і, наагул, страшэнны бюракрат. У залежнасьці ад таго, якое ў каго было дачыненьне да інспэктара, і выяўляліся гэтыя пагляды. Была адна рыса, агульная для ўсіх настаўнікаў: гэта асаблівая бледнасьць і зямлістасьць колеру твараў, якую можна заўважыць толькі ў тых, хто змушан жыць у падвалах і астрогах. І яшчэ што іх рабіла падобнымі адных да другіх — гэта тая сэмінарская закваска, якая так трудна вытыхаецца з настаўніка — выхаванца сэмінарыі.

— Ідзе!

Хтось з настаўнікаў заўважыў праз акно інспэктара.

Усе крыху здрыгануліся, папраўілі манішкі і гальштукі, а Лабановіч навет уськінуў плечы, каб падняць свой «лапсярдак», як пасьпелі назваць гэтае важнае адзеньне для афіцыйных выступленьняў. Сапраўды, да гэтае адзежыны больш падыходзіла слова «лапсярдак», чым сурдут, бо ён быў пашыты на чалавека шырынёю з аршын у плячах і на паўтары, а то і цэлых дзьве галавы вышэйшага ад Лабановіча. Апрача таго, на сурдуце былі сякія-такія плямы, паходжаньне якіх можна было-б вытлумачыць неасьцярожна ўпаўшымі капкамі верашчакі. Тым ня меней, навет і такі «лапсярдак», із спушчаным далёка ўніз станам, усё-ж-такі больш стасаваўся з важнасьцю моманту, чым які-небудзь замухрысты пільчак вясковага настаўніка.

Сярод настаўнікаў прайшоў нейкі рух. Тут ужо многа чаго належала ўзяць пад увагу: не паказаць свайго страху перад інспэктарам, не паздароўкацца так, каб іншым кінулася ў вочы, што ён дагаджае начальству, а дагадзіць хоць трошачкі, а трэба было, і разам з гэтым таксама ня ўраніць і сваю годнасьць.

Інспэктар увайшоў, як цар: важны, срогі і з такім выглядам, як-бы ён трымаў у руках лейцы, каб не разьбеглася, зямля, на якой мы жывем. На твары ў яго быў нязвычайны клопат, думка яго была так моцна занята нейкаю важнаю справаю, што ён навет ня меў часу паглядзець на таго, каму даваў руку. Не пасьпеўшы яшчэ прысесьці, ён зараз-жа зьвярнуўся да Трахіма Пятровіча з чыста дзелавымі пытаньнямі: ці ёсьць прылады пісьма, ці ўсё падгатавана ў школе, ці павешаны на сьцяне карты. Адразу стала ціха і важна, бо ні ў кога не хапала сьмеласьці парушыць работу мысьлі начальства.

— Усе зьехаліся? — спытаў інспэктар. — Ну, пойдзем!

Начальства паднялося і накіравалася ў дзьверы. За ім ішоў Грынько, а там ужо рухаліся, як папала. Лабановіч у сваім «лапсярдаку» ішоў апошнім, маючы на ўвазе, каб яго вопратка ня так ужо кідалася ў вочы. Працэсія была вельмі важная. Наплечнікі і бліскучыя гузікі інспэктара зусім асьляплялі паляшукоў, боязна пазіраўшых вытарашчанымі вочкамі. Іх парассаджвалі, далі паперу. Яны павінны былі напісаць першае слова: «экзаменационная». Дзеці мардаваліся, мыляліся, некаторыя плакалі, пішучы гэтае слова. Потым само начальства пачало дыктаваць, не давяраючы настаўнікам.

Кажаноўскі настаўнік, Філюк, стаў воддаль ад сваіх вучняў, як-бы вельмі спакойны за іх навуку і веды. Але там, дзе вучні павінны былі паставіць коску, ён браў сябе за кончык вуха, пазіраў кудысь у прасторы, як-бы заняты нейкаю думкаю, і пакручваючы вуха. Калі трэба было паставіць дзьве кропкі, Філюк праціраў вочы, як-бы ў іх набілася пылу. Кропка і коска — чухалася вока і кончык носа. А калі ўжо трэба было паставіць клічнік, то, падняўшы ўгару палец, Філюк чухаў ім брыво. Тут быў прыдуман цэлы рад умоўных знакаў, і не адзін раз былі паверачныя дыктоўкі, каб усвоіць гэтую хітрую сыгналізацыю.

Канчалася дыктоўка, давалася другая работа — пераказ. За пераказам ішла пісьмовая задача. І ўсе гэтыя работы вяліся пад назіраньнем самога начальства. Памучыўшы дзяцей гадзіны дзьве, іх пусьцілі на перапынак, пакуль папраўляліся вучнёўскія работы. Тады пачаўся вусны экзамен.

На вусны экзамен прышоў поп Пражорыч. Гэта быў нязвычайна пануры, чорнабароды бацька. У вочы ён рэдка каму пазіраў, не сьмяяўся. А калі здароўкаўся і падаваў руку настаўнікам, асабліва ў такім лапсярдаку, як у Лабановіча, то ў гэту хвіліну шчыра шкадаваў, што ў яго ёсьць рукі.

На першае месца сеў інспэктар, ён быў старшынёю камісіі, на другое — Пражорыч, Трэці член камісіі быў той настаўнік, чые вучні экзаменаваліся. Вучні-ж адчувалі сябе мала чым лепей за тых цялят, якіх загналі на разьніцу.

Вучнёўскія сшыткі складаюцца і даюцца інспэктару. Ён па сьпіску выклікае вучняў. Вучань, трасучыся, падыходзіць да стала

— Што трэба напісаць у слове «телега» пасьля л? — пытае вучня інспэктар.

— Трэба напісаць яць, — адказвае вучань.

— А чаму-ж ты напісаў е?

— Спужаўся, — адказвае вучань.

— Ну, чытай тут, — інспэктар дае вучню кнігу, а сам, грозна насупіўшы бровы, зварачаецца да настаўніка: — Чаму вы падчыркнулі «не смотря»? Якая-ж тут памылка?

Малады настаўнік пазірае на падчыркнутую памылку, на яго твары адбіваецца рашучасьць і сьмеласьць.

— «Несмотря», гаспадзін інспэктар, трэба пісаць злучна.

— Вы самі слаба знаеце граматыку, — адказвае громка інспэктар.

— Выбачайце, гаспадзін інспэктар: «несмотря» пішацца злучна, — стаіць настаўнік на сваім. — Па Гроту «несмотря» пішацца разам.

Які ні важны інспэктар, якое ні вялікае яго начальства, але пры слове «Грот» ён перастае спрачацца, хоць лёгка здавацца і ня хоча.

— Трахім Пятровіч, — зварачаецца ён да Грынько, — прынясеце сюды Грота.

Трахім Пятровіч кажа:

Так, гаспадзін інспэктар, «несмотря» пішацца злучна, — але ідзе і выносіць з шафы Грота.

У тыя часы Грот сядзеў нязвычайна крэпка на сваім троне. І калі ты казаў свайму супярэчніку, што па Гроту пішацца так, то ўжо ніякія довады чалавечага розуму не маглі зрушыць цябе з пазыцыі. Калі сказаў Грот, то — аман. Тут канец, і далей ісьці няма куды.

Чарга прыходзіць на вучняў Філюка. Інспэктар разглядае дыктоўкі.

— Вашы напісалі добра. Але па сінтаксу яны значна крапчэйшыя, чым па этымалёгіі, — зазначае інспэктар.

— Не наладжана сігналізацыя па этымалёгіі, — робіць ціхенька ўвагу Грынько на вуха Лабановічу.

Філюк, як ні ў чым ня бывала, адказвае інспэктару:

— Я наагул на граматыку зварачаю ўвагу.

— Гэта і відаць, — хваліць яго інспэктар.

Вучнёўскія пакуты канчаюцца, іх пускаюць, а інспэктар робіць увагі то таму, то другому настаўніку, вельмі важна кланяецца ім і з папом Пражорычам ідзе абедаць.

Настаўнікі застаюцца на некаторы час, абедаюць з выпіўкаю, віншуюць адзін другога і з сканчэньнем вучэбнага году і распаўзаюцца па сваіх трушчобах.

— А вы, калега, можа, паначуеце? — сказаў Грынько Лабановічу.

— Не, калега, я і так адну лішнюю ноч правёў у дарозе, трэба ехаць.

Лабановіч даўно ўжо маркоціўся па Цельшыне і вельмі быў рад, калі скончыліся экзамены. Ён яшчэ цэлую гадзіну чакаў на станцыі, пакуль прышоў поезд. Позна ўночы выехаў ён дадому.

(Далей будзе)

# Водгукі сьвяткаваньня 25 Сакавіка

## *Дэтройт (ЗША)*

У гэтым годзе дзень 25 Сакавіка адзначаўся ў Дэтройце ў нядзелю 1 красавіка ў Інтэрнацыянальным Інстытуце. На сьвяткаваньне сабралася паважная колькасьць людзей, сярод якіх былі прадстаўнікі ад амэрыканскіх уладаў.

Афіцыяльная частка праграмы распачалася амэрыканскім гімнам, пасьля чаго магістар В. П. прачытаў прынагодны даклад аб 25 Сакавіку ў ангельскай мове. Пасьля дакладу маладзенькая дзяўчынка Сьвятляна Пляскач урачыста прачытала праклямацыю Губэрнатара Штату аб дні незалежнасьці Беларусі, які абвесьціў (ужо другі год) дзень 25 Сакавіка Беларускім Днём у нашым вялікім і ведамым штаце. Асабісты прадстаўнік ад губэрнатара прамаўляў пасьля гэтага, а за ім прадстаўнік рэспубліканскае партыі і сябра мічыганскае легістратуры, ды прадстаўнік ад кангрэсмэна ЗШ. Далей прамаўляла дырэктарка Інтэрнацыянальнага Інстытуту ды прадстаўнікі ад Латышоў і Украінцаў. Пасьля адчыталіся лісты й тэлеграмы, якія надаслалі 3-ох кангрэсмэнаў з Вашынгтону, што самі не змаглі прыбыць на сьвяткаваньне. Ад Галоўнае Ўправы БАЗА зь Нью Ёрку, ад губэрнатара штату ды ад Управы Эстонскага Згуртаваньня. Ад Управы Аддзелу БАЗА ў Клівэлянд прамаўляў старшыня сп. Мікола Латушкін. На гэтым закончылася афіцыяльная частка праграмы.

Другая, частка мастацкай самадзейнасьці праграмы, была вельмі разнаякая і прыгожая, дзякуючы клівэляндзкаму беларускаму хору і групе танцораў. У гэтую праграму ўваходзілі выступы цэлага хору, дуэты й солё ды дэклямацыі. Два беларускія народныя танцы «Лявоніха» і «Крыжачок» у выкананьні чатырох пар танцораў захапілі сабою гледачоў. Хочацца падкрэсьліць асаблівыя заслугі ўсіх выканаўцаў праграмы наагул і паасобных, як сп-яў Ірку Каляду, Розу Шыкалюк, Галіну Радзюк. Валодзю Літвінку ды шмат іншых. Усім ім належыцца вялікае беларускае дзякуй.

Сьвяткаваньне закончылася агульным адсьпяваньнем беларускага гімну.

Пры гэтым трэба дадаць, што чужамоўная прэса вельмі шырака адгукнулася ў гэтым годзе аб 25 Сакавіку і Беларусах у Дэтройце, аб чым могуць сьведчыць два вялікія артыкулы ў найбольшай мічыганскай газэце «Дэтройт Ньюс» ды іншых. Радыё не засталося збоку таксама. Асаблівую заслугу ў гэтым мае спэцыяльны карэспандэнт «Дэтройт Ньюс» сп. Дж. Андэрсон, вялікі прыяцель Беларусаў у Дэтройце. Трэба зазначыць таксама, што кангрэсмэн ЗШ Дж. Дынгел меў 29 сакавіка доўгую прамову аб беларускіх праблемах на Кангрэсе ЗШ у Вашынгтоне, якую можна прачытаць у „Congressional Records“ з пададзенай ужо даты.

Трэба прызнаць, што Беларусы Дэтройту годна адзначылі дзень 25 Сакавіка, падзяка за што належыцца як паасобным сябром, так і Управе Аддзелу БАЗА ў Дэтройце. Усім вялікае дзякуй.

**Дзед Мікола**

## *Крэзо (Францыя)*

У вольнай Францыі, у хвабрычным горадзе Крэзо, жыве вялікая група Беларусаў. Сёлета 8 красавіка яны сабраліся, каб належна ўшанаваць 38-я ўгодкі Вялікага Сакавіка.

Рана а гадзіна 11-й а. Гарошка адправіў Божую службу за беларускі народ. У сваім казаньні ён падкрэсьліў значэньне й карысьць малітвы. Пры гэтай нагодзе, пасьля Багаслужбы, а. Гарошка ахрысьціў нованароджанага Беларуса Станіслава Гасьцеева.

Пасьля абеду, у залі мясцовае ратушы адбылася сьвяточная акадэмія, на якую, акрамя сваіх сяброў Беларусаў, зьявілася шмат гасьцей Украінцаў. Акадэмію адкрыў старшыня мясцовае сэкцыі АБРФ сябра Булыга, паклікаючы ў ганаровы прэзыдыюм а. Гарошку й ад сэкцыі АУРФ сп. Гаўрыльца. Пасьля адыграньня з пліткі «Пагоні», сп. М. Булыга прачытаў рэфэрат на тэму 25 Сакавіка, а затым папрасіў прысутных хвілінай цішыні ўшанаваць памяць тых, што аддалі жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі. Сп. Гаўрылец горача вітаў Беларусаў ад імя Украінскай сэкцыі АУРФ, зварочваючы асаблівую ўвагу на карысьць беларуска-украінскага супрацоўніцтва. Так-жа браў слова а. Гарошка, які даўжэй спыніўся над значэньнем Акту 25 Сакавіка ў нашай гісторыі.

Мастацкая частка ўрачыстасьці пачалася адсьпяваньнем дзецьмі спадарства Гасьцеевых і Рашкевічаў песьні «Мы Беларусы вольнай арляняты». Янук Рашкевіч задэклямаваў верш «Кінь вечны плач свой аб старонцы», а Андрэй Гасьцееў — «Хто ты гэткі». Таксама група дзяцей прасьпявала песьню «Кураняты». Шмат хто яшчэ із старэйшых дэклямавалі патрыятычныя вершы. Пасьля зайграна некалькі песьняў з плітак лювэнскага Ансамблю.

На заканчэньне сп. Булыга шчыра падзякаваў гасьцём за ўшанаваньне беларускага нацыянальнага сьвята, а таксама сваім суродзічам за чынны ўдзел у наладжаньні сакавіковае ўрачыстасьці. Акадэмія закончылася адыграньнем нацыянальнага гімну. Дзеці за ўдалыя выступы атрымалі падаркі.

**Н. Б.**

### ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

У № 15 «Бацькаўшчыны» пад карэспандэнцыяй аб сьвяткаваньні гадавіны 25-га Сакавіка ў Торонто быў памылкова пададзены подпіс карэспандэнта — **М-К-р**, за што Рэдакцыя перапрашае Паважанага Аўтара.

Карыстаючыся гэтай нагодай, просім Паважаных Супрацоўнікаў не абмяжоўвацца прысыланьнем фотоздымак і выразак з чужое прэсы аб ладжаных беларускіх імпрэзах. але й даваць да іх патрэбныя камэнтары.

## *Зь беларускага жыцьця*

### У АДДЗЕЛЕ ВЭТЭРАНАЎ У НЬЮ ЁРКУ

8 сакавіка адбыўся агульны сход аддзелу Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у Нью Ёрку пад кіраўніцтвам сп-ра Ул. Курылы.

На сходзе былі абмеркаваныя бягучыя справы, праслухана інфармацыя аб дзейнасьці ўправы за мінулае паўгодзьдзе, з чаго відаць была актыўнасьць сучаснага кіраўніцтва. Асобым пунктам і ўвагай сходу была справа ўдзелу вэтэранаў у надыходзячым парадзе ляяльнасьці. У сувязі з гэтым пастаноўлена ўзяць актыўны ўдзел у парадзе ў вайсковых уніформах ды з адпаведнага зьместу вэтэранскімі плякатамі.

**К. Мароз**

### СПРАВАЗДАЧА БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ Ў НОВАЙ ПАЎДЗЁННАЙ ВАЛІІ (АЎСТРАЛІЯ) ІЗ ЗБОРКІ ГРОШАЎ НА СТУДЭНТАЎ

**Падпісны Ліст № 1. Зьбіральнік Др. Я. Малецкі**

А. Кажан — 10 ш, Др. Я. Малецкі — 10 ш, А. Смаль — 10 ш, М. Кр'янчык — 10 ш. Э. Кулакоўскі — 1 фунт, Др. П. Г. — 2 фунты, Я. Чарнэцкі — 1 фунт, С. Нарушэвіч — 1 фунт, А. Булаўскі — 10 ш. **Разам — 7 фунтаў і 10 шылінгаў.**

# Чарговы наступ на калгаснае сялянства

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

на правесьці ў жыцьцё «парады й рэкамэндацыі», якія ёсьць у пастанове аб статуце арцелі.

Якіх-жа вынікаў можна чакаць ад рэалізацыі новае пастановы? Яны будуць наступнага характару:

1. Скарачэньне асабістай гаспадаркі значна пагоршыць матарыяльнае палажэньне калгасьнікаў.

2. Новы парадак устанаўленьня мінімуму працадзён і нормаў выпрацоўкі выкліча церазьмернае працоўнае напружаньне, а ў часткі калгасаў выкліча значнае насіленьне перасяленьня калгасьнікаў на цаліну й іншыя працы.

У савецкай прэсе ўжо ёсьць паведамленьні аб выніках гэтай пастановы. Гэтак Ленінградзкае радыё паведаміла, што агульны сход арцелі імя Хрушчова з Прыазерска перагледзіў нормы некаторых відаў працы й павысіў іх на 20—50%. У калгасе установлены мінімум працадзён — калгасьнікам 300, а калгасьніцам — 250.

У Горацкім раёне Магілёўскай вобласьці ў калгасе «Завет Ільліча» скарочаны прысялібныя вучасткі да 0,35 гэктара. Надзяленьне прысялібнымі вучасткамі праводзіць кіраўніцтва калгасаў. У «нядбайных калгасьнікаў» памяншэньне вучасткаў будзе праводзіцца незалежна ад пары году. Замест 100 працадзён устаноўлена тут норма абавязковай выпрацоўкі 300 працадзён, жанчынам — 180. Навет жанчыны зь дзецьмі ад 1 да 7 гадоў забавязаныя выпрацоўваць 100 працадзён. Апрача гэтага, на тых калгасьнікаў ,што ня выканаюць мінімуму працадзён, будзе павялічаны сельскагаспадарскі падатак («Советская Белоруссия» за 11 красавіка 1956).

Аднак зьмешчаныя ў савецкай прэсе водклікі аб пастанове не адбіваюць запраўдных настрояў калгасных масаў. Няма сумлеву, што новая пастанова будзе разглядацца, як новы наступ на прыгнечанае прыгоннае сялянства.

На працягу чвэрці стагодзьдзя камуністычная партыя ня перавыхавала сялянства, не зламала ягонай волі да змаганьня, не зьнішчыла ў ім імкненьня да самастойнай працы на собскай гаспадарцы. Упарты супраціў калгаснаму ладу ня будзе зломлены і новай пастановай ЦК КПСС і Савету Міністраў СССР. Існаваўшы да гэтага часу пасыўны супраціў калгаснай сыстэме знойдзе іншыя формы.

**В. Б.**

# Дым

**(Заканчэньне з 6-ай бачыны)**

атрымаўшы ветлівага «калі ласка», далікатна націскаў клямку і, памаленьку адчыніўшы дзьверы, на пальцах, скрадаўся аж да піяніна, дзе, на столку, прытаіўшыся, сядзеў Міхась і, як можна далікатным голасам, прасіўся:

— Выбач, дарагі браце, ты-ж знаеш мяне, я-ж люблю песьню, але калі ўсё песьня, дык песьня, ды няма як і люлькі спакойна выкурыць...

— А гэтак яно, — нібы прасну́ўшыся казаў Міхась — ты любіш люльку, а я песьню.

І пачыналася гутарка пра журавіны, пра ўюны, а калі набліжалася да недалёкага старакавалерства, дык і зусім забываліся ўсе непагоды, пагражала навет небясьпека, што могуць і пра люльку і пра песьню забыцца.

Любіў Міхася інжынер, як брата, можа на'т і болей, але ягонага «горла» дык ніяк ня мог сьцерпець.

Вось, каб ня гэтае горла!..

І думаў нераз інжынер, як, хоць раз, адным адзін раз, адпомсьціць гэнаму горлу!

На бяду, кажуць, шмат ня трэба, а калі захочаш сабаку набіць, дык і кій знойдзеш. Нашоўся спосаб і на Міхасёва горла. Навет і абставіны гэтаму спрыялі.

Надарыла-ж ліха, што паміж двума пакоямі, дзе жылі нашы землякі, былі дзьверы, «глухія»-дзьверы. праз якія ніхто не хадзіў і якія былі зачынены на ключ.

Каб меней чуць песьню, зрабіць дзьверы яшчэ больш «глухімі», інжынер перапартавыў іх у «шапу» і запхаў усякімі кнігамі, стварыў салідную бібліятэку, якой на'т знаёмыя захопліваліся.

І вось, калі інжынер зьбіраўся затуманіць сваю люльку, мільганула, як яму здалося, шчасьлівая, ну, проста, геніяльная думка, аж усьміхнуўся.

— Ну, пачакай-жа-ж ты, сьпявачае горла!..

У дзьвярох была ад ключа дзюрка. Напхаў інжынер туга люльку табакай, падозранай гарантыі, бо купленай на цэтлікі (гэта было падчас вайны — прыпамінаем) растуманіў, уставіў канцом цыбуха ў дзюрку ад ключа, каб дым цягнула ў Міхасёў пакой, падапёр з усіх бакоў кніжкамі, а сам пайшоў на спацыр.

Набадзяўшыся па бульварах, натаптаўшыся па мокрым і гразкім праскім сьнягу, прамерзшы. вярнуўся дамоў і, не захадзячы да сябе, адразу, на'т не пастукаўшы, увайшоў у пакой Міхася, дзьверы якога былі насьцеж адчыненыя. Адчыненае было й вакно. Міхась, абвязаўшы горла шалікам, скуліўся ў куце канапы. У пакоі было сіва-шэра ад табачнага дыму. Напамінаўся туман над Тамізай. Ну, проста, хоць пілой рэж, такі быў густы, можна было-б сякеру на ім павесіць.

— Што-ж гэта здарылася, Міхасёк? — лісіным голасам мэлядыйна цягнуў інжынер і калючымі вачыма ўядаўся ў абкручанае горла, як-бы хочучы памераць там гушчыню дыму...

На пакоі сьвістаў працяг і ганяўся за кудлатымі клубамі дыму, як сабака за авечкамі, запыняў іх то з аднаго, то з другога боку. накіроўваў то праз вакно на вуліцу, то праз дзьверы на вузкі калідор...

Як толькі дакрануўся Міхась пальцамі до клявішаў і вось-вось меўся расчыніць рот, каб лёганька, амаль нячутна захапіць паветра і мілагучна, плаўна акварэліць незабыты вобраз далёкага Купалаўскага неба:

«Вольны вецер напеў вольных песень Табе,
Беларусь...»

у пакой усоўвалася сіня-шэрая нітка табачнага дыму. Спачатку яна была тонкай, зрэбнай, потым што раз грубела, набрыняла, кудлачылася, ставалася асмыкавай, пачынала хваляваць, скручвацца, павольна ператваралася ў кудзелю, потым у воблака і хмару, падымалася пад столь, гусьцела, чарнела і што раз ніжэй займала пакой. Ужо хаваліся ў ёй вэнэцкія краявіды ў пазалочаных рамках на сьценах, зьнікаў бронзавы рыцар старадаўнай Пагоні, мэлянхалійна спускалі кволыя галоўкі лілёвыя туліпаны ў вазе на герыдоне. Міхась завязваў горла шалікам, адчыняў дзьверы, вакно, сядаў пакорна ў рагу канапы, чыхаў, кашляў, захлынаўся едкім дымам, цёр вочы, засланяў рот і нос рукой і папырхаўся глынаючы паветра. Працяг сьвістаў па Міхасёвым пакоі, ганяўся за хмарамі дыму, як кудлач за авечкамі і запыняў іх з кута ў кут...

Гаспадыня паклікала камінара, праверылі ўсе печы ўва ўсім доме, перагледзелі ўсе куты — нічога падозранага не адкрылі.

Як толькі Міхась дакранаўся да клявішаў, у пакой, невядома якім цудам і правам павольна ўсоўвалася сіня-шэрая нітка табачнага дыму і ператваралася ў цёмную хмару навальніцы.

Сядзеў Міхась скуліўшыся ў рагу канапы і пазіраў боязна на беласьнежна блісткучыя клявішы піяніна і баяўся падыхнуць да іх.

Прыходзіў да яго часамі інжынер і разам успаміналі Замковую Гару, Тры Крыжы над Вілейкай, Кромань, Белавежу...

— А дзе твая люлька? — неяк неўзнарокам запытаўся Міхась.

— Ат! пакінуў курыць, табака дарагая — абыякава прамармытаў інжынер.

У Міхасёў пакой павольна ўсоўвалася сіня-шэрая нітка табачнага дыму.

**Н. Р.**




### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina**, Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St. Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Moroz**, 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**Mr. M. Palashuk**, 33 Chigford St. Fairfield-Melbourne, Vic.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk**, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčečka**, 19, Place Hoover, Louvain.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich**, 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec**, 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mrs. N. Akula**, 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski**, 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič**, 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. Bonifacy Prytycki**, 112, rue d'Alger, Roubaix (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**